www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 38 (4290)**

11 мая 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



ПРИНЦИПИАЛЬНО!

## Народ, где ты?!

1 мая ассоциация «Белорусский конгресс демократических профсоюзов» провела митинг в Минске, тем самым отметив День международной солидарности трудящихся. Более века для всех народов остается актуальным лозунг «За достойную жизнь, свободу и братство».

Лучшие представители демократических профсоюзов Беларуси собрались в Киевском сквере в этот солнечный день, чтобы заявить властям свои требования: за достойный труд без краткосрочных контрактов, за настоящую пенсионную реформу, за качественные рабочие места, за достойную заработную плату, за реальное улучшение условий труда, за настоящие профсоюзы, за чистую окружающую среду, за то, чтобы работник возвращался с работы живым и здоровым, за отмену антинародных декретов! Все эти требования вошли в резолюцию и были приняты участниками митинга.

Все организационные обязанности заявителями митинга были выполнены, а представители конгресса получили от городских властей разрешение на его проведение. Дело оставалось за самими гражданами, они в тот момент решали: принять участие в митинге или не принимать. Информация была распространена, и жители нашей страны, не боясь за свою безопасность, могли прийти на профсоюзное мероприятие, выступить, внести свои предложения в резолюцию. Могли, но не реализовали эту возможность.

Малочисленным оказался митинг.

Конечно же, огорчает то, что в этот день белорусы безразлично отнеслись к борьбе за свои права и не участвовали в массовых акциях по защите своих интересов. Я думаю, это не столько проблема БКДП, сколько проблема тех граждан, которые игнорируют демократические профсоюзы или же состоят в провластных.

Сегодня независимые и свободные профсоюзы объединены в ассоциацию «Белорусский конгресс демократических профсоюзов» и в меру своих сил борются за права, за законные интересы своих членов. Белорусский конгресс демократических профсоюзов – это не «народовольцы» XIX века, которые ходили в народ и призывали бороться с царизмом, а организация, созданная представителями народа – своими членами, чьи интересы, согласно законодательству, она и отстаивает.

В этом случае уместно спросить белорусов: «Народ, где ты?!» Приходите в независимые профсоюзы, и вместе будем отстаивать свои права. Независимые профсоюзы не будут работать за тебя и без тебя; они будут работать только с тобой!

В единстве наша сила!

**Николай ЗИМИН,**
**председатель Белорусского независимого профсоюза.**

ГАРАЧАЯ ТЭМА

## Галадоўка спыняецца...

*Сёння ў другой палове дня ля Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі могуць сабрацца сваякі асуджаных па артыкуле 328 Крымінальнага кодэкса Беларусі – "Незаконны абарот наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў і аналагаў". Яны галадаюць з 27 красавіка і патрабуюць асабістай сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам, бо лічаць, што адказныя чыноўнікі наўмысна дэзінфармуюць кіраўніка дзяржавы.*

"Матчын рух 328" з'явіўся ў Беларусі некалькі гадоў таму. Людзі, якія ўвайшлі ў яго, сваю галоўную мэту абазначылі проста: прыцягнуць увагу беларускіх улад да вялікіх і не заўжды, на іх погляд, справядлівых прысудаў, якія выносяцца ў краіне за незаконны абарот наркатычных рэчываў. Тэрміны, прадугледжаныя санкцыямі артыкула 328 Крымінальнага кодэкса, і сапраўды немаленькія – ад 5 да 20 гадоў пазбаўлення волі.

Доўгі час маці асуджаных па гэтым артыкуле асоб праводзілі "круглыя сталы", сустракаліся з чыноўнікамі і дэпутатамі, дамагаючыся змякчэння згаданага артыкула. Усё марна!

Галадоўка – самы гучны і небяспечны крок, на які адважыліся актывісткі "Матчынага руху 328".

Напрыканцы красавіка ў Беларусі ўзніклі два эпіцэнтры, дзе сабраліся галадоўшчыкі: адзін – у вёсцы Востраў Пухавіцкага раёна, другі – у Калінкавічах, што на Гомельшчыне.

У самыя "пікавыя" дні ўдзел у галадоўцы бралі да 14 жанчын адначасова. Хтосьці з-за пагаршэння стану здароўя выходзіў з галадоўкі, хтосьці далучаўся.

– *Я была адной з ініцыятарак такога кроку,* – распавядае ў размове з карэспандэнтам "Народнай Волі" ўдзельніца галадоўкі **Таццяна Канеўская**, сын якой асуджаны па згаданым артыкуле на пяць гадоў пазбаўлення волі. – *Лічыце, што гэта жэст адчаю. Перад тым як распачаць галадоўку, я адправіла адпаведны электронны ліст у Адміністрацыю прэзідэнта Беларусі. З 27 красавіка трымаюся, як і іншыя, толькі на вадзе.*

*11 мая мы спыняем сваю акцыю, каб ізноў сабрацца ў Мінску і перадаць свой чарговы зварот у Адміністрацыю Аляксандра Лукашэнкі.*

Пра спыненне галадоўкі "Народнай Волі" паведаміла і лідар "Матчынага руху 328" **Ларыса Жыгар**. Жанчына, чый сын адбывае васьмігадовы тэрмін зняволення, кажа, што пра гэта яе папрасілі прадстаўнікі ўлады.

– *10 мая мне патэлефанавала старшыня пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па заканадаўстве* ***Наталля Гуйвік****. Мы спакойна пагаварылі. Наталля Васільеўна сказала, што я магу паўплываць на сітуацыю, каб галадоўка спынілася. Гуйвік сказала, што разумее мяне як маці, і запэўніла, што наша пытанне на кантролі, трэба трохі пачакаць.*

*Наколькі мне вядома, новы законапраект, які прадугледжвае змякчэнне пакарання па 328-м артыкуле Крымінальнага кодэкса, прайшоў усе патрэбныя экспертызы і павінен паступіць на разгляд дэпутатаў парламента. Магчыма, гэта адбудзецца ў чэрвені.*

*Пакуль прынята рашэнне спыніць галадоўку.*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ФАКТ



Ілюстрацыйнае фота

## Больш за 70 тысяч беларусаў жывуць за 50 долараў у месяц

У 2017 годзе на 12,7%, або на 9 тысяч, стала больш беларусаў, якія атрымліваюць сацыяльную пенсію, паведамляе часопіс Міністэрства фінансаў «Финансы. Учет. Аудит». Такім чынам, на пачатак гэтага года атрымальнікаў сацыяльных пенсій налічвалася 71 тысяча чалавек.

Сацыяльную пенсію ў нашай краіне атрымліваюць тыя, хто не выпрацаваў страхавы стаж, які, як вядома, з 2014 года значна павялічаны (да 2025 года ён складзе 20 гадоў). У мінулым годзе для афармлення працоўнай пенсіі па ўзросце (з 1 мая яна падрасла да 340,6 рубля) трэба было мець 16 гадоў страхавога стажу. З пачатку гэтага года страхавы стаж паднялі яшчэ на паўгода, цяпер ён складае 16 гадоў і 6 месяцаў.

Аформіць сацыяльную пенсію могуць мужчыны з 65, жанчыны – з 60 гадоў. Яе памер – 50% ад бюджэту пражытачнага мінімуму. З 1 мая гэта 103 рублі 29 капеек, альбо ўсяго каля 50 долараў. Ці пражывеш за такія грошы?

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЛІЧБА ДНЯ

## 154,9 мільёна рублёў

Столькі сёння складае запазычанасць насельніцтва Беларусі за жыллёва-камунальныя паслугі.

Для параўнання: годам раней гэтая запазычанасць была 119,2 мільёна рублёў. То бок за год сума доўгу вырасла на 35,7 мільёна рублёў.

Як вядома, у 2017 годзе насельніцтва кампенсавала 69,7% выдаткаў па ўсім комплексе жыллёва-камунальных паслуг, астатняе субсідзіравала дзяржава. У 2018 годзе, як плануецца, беларусы будуць кампенсаваць ужо 76,3% выдаткаў за аказаныя жыллёва-камунальныя паслугі.

АКТУАЛЬНАЯ ТЕМА

## Насчитать тысячу рублей средней зарплаты не получилось. Получится ли заработать?

*В банке вакансий большинство предложений с зарплатой ниже 400 рублей.*

Руководство страны чуть ли не манной небесной считает среднюю зарплату в тысячу рублей, тогда как большая часть занятых в экономике работает за гораздо более скромные деньги. Более того, рост зарплат не является тенденцией. Периодами заработки падают. Даже на высокооплачиваемых должностях.

### Поднять зарплату «любыми путями» – не вариант

Средняя зарплата в стране никак не доползет до заветной тысячи рублей. В марте по сравнению с февралем она увеличилась на 76,4 рубля (на 9%) и составила 926,8 рубля.

Рост произошел после двухмесячного падения: в январе 2018-го по сравнению с декабрем 2017-го зарплата снизилась на 136,3 рубля (на 13,7%) и составила 859 рублей, в феврале по сравнению с январем – еще на 8,6 рубля (на 1%) до 850,4 рубля.

В правительстве есть понимание, что белорусы получают мало, в регионах особенно.

Премьер-министр **Андрей Кобяков** по итогам недавнего совещания у президента сообщил журналистам, что задача роста средней зарплаты в Беларуси будет решаться с упором на отстающие предприятия.

Премьер-министр констатировал, что по итогам марта не удалось в полной мере выполнить задачу по достижению средней зарплаты в Беларуси на уровне декабря 2017 года: *«Де-факто получилось, что мы в марте несколько не достигли этого показателя».*

Однако очевидно, что вдруг зарабатывать больше белорусы не станут. На этот счет предельно ясно высказался министр экономики **Владимир Зиновский**: *«Я просто вам хочу сказать, что никогда «любыми путями» ни правительство, ни тем более президент не ставили такой задачи. На конкретных предприятиях должна все же производительность труда опережать рост заработной платы, тогда получится хороший баланс, тогда будет расти заработная плата».*

*(Окончание на 2-й стр.)*

НУ І НУ!

## Паляцелі... цыгарэты

*41-гадовы жыхар Брэста прыдумаў незвычайны спосаб кантрабанды.*

Як паведаміла прэс-служба Памежнага камітэта, затрыманы мужчына, які перапраўляў праз беларуска-польскую мяжу цыгарэты з дапамогай квадракоптара.

Дома памежнікі знайшлі ў кантрабандыста састаўныя часткі квадракоптара, пульт кіравання, ноўтбук з праграмным забеспячэннем да яго, а таксама цыгарэты, спецыяльна падрыхтаваныя для незаконнага перамяшчэння праз мяжу.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

НАДВОР'Е

## У выхадныя – дажджы

У ***суботу 12 мая*** ў асобных раёнах па паўднёвым усходзе Гомельскай вобласці магчымы кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ўначы – +3...8°C, удзень будзе +20...25°C. У ***нядзелю 13 мая*** пад уплывам атмасферных франтоў уначы ў паўднёва-ўсходніх раёнах, а ўдзень на большай частцы тэрыторыі краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы, месцамі прагрымяць навальніцы.

ЧУЛІ?

## Лідарам прафсаюза РЭП Фядынічу і Комліку прад'яўлена канчатковае абвінавачанне: ім пагражае да сямі гадоў турмы

8 мая лідарам Беларускага прафсаюза РЭП Генадзю Фядынічу *(на фота справа)* і Ігару Комліку прад'яўлена канчатковае абвінавачанне ва ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры (частка 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса РБ), паведамляе spring96.org.

Санкцыя артыкула прадугледжвае пакаранне ў выглядзе абмежавання волі на тэрмін да пяці гадоў альбо пазбаўлення волі на тэрмін ад трох да сямі гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без канфіскацыі, а таксама з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю або без пазбаўлення.

– Нас абвінавачваюць па частцы 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса – ухіленне ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры. Следства прыйшло да высновы: я і Комлік вінаваты ў тым, што па выніках 2011 года прафсаюз РЭП не заплаціў у дзяржбюджэт падаткі на суму 22 тысячы 867 рублёў 10 капеек (з улікам дэнамінацыі). Вінаватым сябе не прызнаю і не прызнаю ніколі. Лічу, што справа палітычна матываваная, галоўная мэта – аказаць ціск на мяне як на лідара прафсаюза, на прафсаюз РЭП і на незалежны прафсаюзны рух у цэлым, – заявіў лідар прафсаюза РЭП сайту praca-by.info.

Следства ўказвае, што крымінальны пераслед неўстаноўленых асоб па крымінальнай справе спынены 7 мая 2018 года, так як такіх асоб і не аказалася.

– Следчыя правялі сотні допытаў па ўсёй краіне. Відавочна, што ў выніку допытаў следства прыйшло да высновы, што ў дзеяннях апытаных асоб складу злачынства няма. Абвінавачанымі застаюцца толькі Фядыніч і Комлік, – падкрэсліў Генадзь Фядыніч.

Лідарам прафсаюза РЭП далі месяц на азнаямленне з матэрыяламі справы, пасля чаго крымінальная справа будзе накіравана ў суд.





– На працягу месяца мы павінны азнаёміцца з матэрыяламі справы (каля дзесяці тамоў). Я па-ранейшаму застаюся пад падпіскай аб нявыездзе, а таму мой удзел у Міжнароднай канферэнцыі працы, якая адбудзецца з 29 мая па 4 чэрвеня ў Жэневе, пад пытаннем, – адзначыў лідар прафсаюза РЭП.

***

2 жніўня 2017 года ў цэнтральным офісе Беларускага прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Дэпартамент фінансавых расследаванняў КДБ па Мінску правёўператрус, аналагічны ператрус праведзены ў Салігорску ў офісе Незалежнага прафсаюза гарнякоў. Лідараў РЭП абвінавацілі ва ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры.

Ігар Комлік два месяцы правёў за кратамі, вечарам 2 кастрычніка 2017 года яго вызвалілі пад падпіску аб нявыездзе.

Папярэдняе расследаванне крымінальнай справы некалькі разоў прадаўжалася – апошні тэрмін скончыўся 1 мая. Канчатковае абвінавачванне лідарам РЭП прад'яўлена 8 мая.

Народная Воля http://www.nv-online.info
11 МАЯ 2018 г.

ДАСЛОЎНА

## Разлік Андрэя Кабякова

Прэм'ер-міністр Беларусі Андрэй Кабякоў на сустрэчы з прадстаўнікамі Савета выканаўчых дырэктараў Групы Сусветнага банка заявіў:

*– Дзеючы партфель складае восем інвестыцыйных пазык на агульную суму каля 800 млн долараў. Мы высока ацэньваем дасягнуты ўзровень узаемадзеяння і разлічваем на павелічэнне дзеючага партфеля ў бліжэйшай перспектыве.*

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Украінская Зорка Жызнеўскіх

Дзве нядаўнія смерці не даюць мне спакою. У красавіку да сына на могілкі перабраўся бацька. У маі – маці. Нарэшце Жызнеўскія сабраліся разам. На журботнай ускраіне падгомельскай вёскі з выразна савецкай назвай Сцяг Працы з'ядналася сям'я, якая дала Украіне героя Нябеснай Сотні, а Беларусі напомніла біблейскую ісціну – найвялікшая любоў праяўляецца ў гатоўнасці памерці "за другі свая".

Міхась Жызнеўскі загінуў у 2014-м ад снайперскай кулі ў Кіеве. Летась удзячная Украіна ўганаравала яго высокім званнем Героя – першым з замежнікаў. Памятаю, якімі ўзрушанымі вярнуліся тады з украінскай сталіцы Ніна Васільеўна і Міхаіл Пятровіч. Яны спадзяваліся, што Зорка Героя абароніць іхняга сына ад зняваг, што іх перастануць называць "бацькамі бандэраўца", што на Міхасёвай магіле нейкія зламыснікі больш не будуць раскідваць і таптаць вянкі і пісаць абразлівыя словы на помніку. Міліцыя вінаватых не знаходзіла, адгаворвалася тым, што да кожнай магілы ахоўніка не прыставіш. Ды і ці варта ахоўваць, калі ледзь не штодня ў тэлевізары – пра "фашысцкую хунту", што захапіла ўладу ва Украіне. Няхай сабе гэта лухта нясецца з расійскіх каналаў, але ж паглынаюць яе нашы людзі.

На жаль, і Зорка Героя не змяніла стаўлення беларускіх чыноўнікаў да Міхася Жызнеўскага. Да яго бацькоў неаднойчы прыязджалі ўкраінскія дыпламаты, карэспандэнты незалежных СМІ, грамадскія актывісты, а вось Гомельскі гарвыканкам, не выключана, і ведаць не ведаў, дзе яны жывуць і ў чым маюць патрэбу.

Што ж, кесару кесарава, а слесару слесарава. Урэшце ў былога слесара-сантэхніка Міхаіла Пятровіча Жызнеўскага не вытрымала змітрэнжанае нападкамі на сына сэрца, яго пахавалі поруч з Міхасём. Бацька нібы пайшоў да яго ў вечныя ахоўнікі. А праз дваццаць шэсць дзён на тыя самыя могілкі прывезлі і Ніну Васільеўну. Не прычакаўшы заступніцтва ад беларускіх улад, бацькі самі ўзялі пад ахову сына…

Зразумела, што ў іхніх пасведчаннях аб смерці названы іншыя прычыны, але варта было б упісаць туды і гэту – "ад знявагі памяці сына". Які для Украіны – герой, а для Беларусі па-ранейшаму бандэравец і ізгой. Прычым не толькі для ўлады. Я добра памятаю, якім кантрастам у студзені 2014 года выглядалі залатаверхі Міхайлаўскі сабор у Кіеве, жалобны перазвон у сонечным небе, тысяч дзесяць кіяўлян, што прыйшлі развітацца з беларусам Жызнеўскім, і – некалькі дзясяткаў суайчыннікаў на цёмных і здранцвелых ад марозу могілках у тым Сцягу Працы. Пры поўнай адсутнасці прадстаўнікоў апазіцыйных партый, якія тады так любілі пагаварыць пра салідарнасць і беларуска-ўкраінскае братэрства.

Сапраўдную салідарнасць тады праявілі простыя людзі, пратрываўшы цэлы дзень на дваццаціградусным марозе, па-партызанску грэючыся каля ляснога вогнішча, прарваўшыся праз міліцэйскі пост на ўездзе ў вёску. Дзе былі ў той час тыя апазіцыянеры, што кляліся ў вернасці ўкраінцам? Здавалася б, элементарны працяг тых клятваў – проста прыехаць на пахаванне, каб аддаць апошні паклон чалавеку, для якога лозунг "За нашу і вашу свабоду!" не быў галаслоўным.

Яшчэ больш абуральна выглядалі выступленні айчынных палітолагаў. Труна з целам Жызнеўскага яшчэ была ў дарозе, а яны пачалі глыбакадумна сумнявацца, кім жа ён ёсць для Беларусі. Герой – не герой. Як на рамонкавых пялёстках варажылі…

Не па-хрысціянску, не па-добрасуседску гэта ўсё выглядала. Лёс Украіны шмат у чым падобны да лёсу Беларусі, і таму многія героі ў нас – агульныя.

Хіба народжаны ў вёсцы Касута на Вілейшчыне аўтар першай украінскай канстытуцыі Піліп Орлік – таксама і не наш герой? А ўраджэнец украінскай зямлі Канстанцін Астрожскі – герой Бітвы пад Оршай – хіба не герой і для Украіны? А дзе Васілю Быкаву першы (яшчэ прыжыццёвы) музей быў створаны? На Кіраваградчыне, у Вялікай Севярынцы. А хіба Кіеў не апярэдзіў беларускую сталіцу ва ўшанаванні другога беларускага генія – Уладзіміра Караткевіча? Які, дарэчы, калі размова заходзіла пра Кіеў, катэгарычна абвяшчаў "Мой се градок!" і якога ледзь не выгналі з Кіеўскага ўніверсітэта за… украінскі нацыяналізм.

Пералічваць імёны з далёкай і блізкай гісторыі, якія аднолькава дарагія беларусам і ўкраінцам, можна доўга. Але гісторыя часам дыхае нам у твар. І недаравальна ў такія моманты быць ніцавокімі. Недаравальна не бачыць таго, што ўжо ўвідавочнілася для твайго суседа.

Таму для мяне гамяльчук Міхась Жызнеўскі, які стаяў на кіеўскіх барыкадах пад бел-чырвона-белым сцягам, – герой. Як і для тысяч кіяўлян, якія правялі яго ў апошні шлях на радзіму воклічам "Герою – слава!". Як і для той паўсотні беларусаў, якія кінулі па тры жмені мерзлай зямлі ў чорную прорву начной магілы.

Міхась Жызнеўскі паехаў змагацца за свабоду ва Украіну. Як у свой час паехаў змагацца ў ЗША Тадэвуш Касцюшка. Як паехаў змагацца ў Францыю Валерый Урублеўскі. Так, Жызнеўскі не быў генералам, але лаўровыя вянкі часам ускладаюцца і на галовы шарагоўцаў. У кожным народзе, і беларусы тут не выключэнне, ёсць невялікі адсотак тых, хто не можа спаць разам з народам, асабліва калі народ засынае надоўга. Летаргічны сон – не для такіх.

Калісьці Тарас Шаўчэнка ў славутым "Запавеце" заклікаў сваіх суайчыннікаў "акрапіць волю злой варожай крывёю". На жаль, воля акрапляецца найперш сваёй, роднай, братняй крывёю. Крывёй герояў. Бабка-павітуха Гісторыя пра гэта добра ведае. Мусім ведаць і мы.

І тады заезджыя зламыснікі не адважацца апаганьваць магілу героя Міхася Жызнеўскага. І тады згараваныя бацькі спачываць муць поруч з ім спакойна – пад украінскай Зоркай, якую іх сын запаліў на беларускім небе.

ЗА РУЛЕМ!

Кирилл ШОЛОМИЦКИЙ, начальник коммерческой службы «БелДжи»:

# «Отгрузки машин в Россию увеличены в шесть раз»

Недавно российское аналитическое агентство «АВТОСТАТ» сообщило, что за первые три месяца нынешнего года в России было реализовано 7 тысяч новых легковых автомобилей китайских марок. Это на 17% больше, чем в 1-м квартале 2017 года. Но, как оказалось, в топ-10 самых продаваемых на российском рынке китайских авто не попал китайский автомобиль белорусской сборки Geely Atlas. А ведь наши чиновники от автопрома рассчитывали, что около 90% автомобилей, произведенных на заводе «БелДжи», будут поставляться в Российскую Федерацию. Причем на этот год, сообщалось, запланировано выпустить с конвейера «БелДжи» 25 тысяч новых авто.

Планам по реализации не суждено сбыться?

– В Россию отгрузки идут, по сравнению с началом года они увеличены в шесть раз, – поясняет ситуацию с продажами белорусско-китайских авто начальник коммерческой службы «*БелДжи*» **Кирилл Шоломицкий**. – *В апреле мы отгрузили 588 машин, хотя наш дилер запрашивал 600. На май они заявили 800 машин, и я надеюсь, что такое количество мы и отгрузим. Что касается отгрузок, то сейчас идем по графику. И это неплохой показатель.*

*За сбыт наших автомобилей в Российской Федерации отвечает отдельный импортер, отдельная китайская структура* – «Джили моторс». Мы туда только отгружаем машины, а они уже занимаются продажами конечному потребителю. Работает «Джили моторс» неплохо, *но они только в начале пути и сейчас активно занимаются* развитием дилерской сети: сделали полную перезагрузку в соответствии с новыми требованиями и стандартами самого Geely. *Чтобы продукция «БелДжи» вошла в десятку авто, продаваемых на российском рынке, по итогам года, им предстоит еще много потрудиться. Но мы считаем, что все идет неплохо.*

**– Тем не менее правительственные планы о поставках в Россию в 2018 году чуть ли не 25 тысяч собранных в Беларуси Geely вряд ли реализуются?**

– 25 тысяч никто не планировал, меньше. Конечная цифра продаж – это коммерческая тайна, не хотелось бы ее сейчас озвучивать.

**– А как идут продажи Geely на белорусском рынке? Программа кредитования, которая заработала в марте, привлекла покупателей, продажи увеличились?**

– Безусловно, стало больше продаваться машин физическим лицам, потому что условия кредитования очень привлекательные. (*Сегодня на покупку Geely можно взять кредит под 1,9 процента годовых на первые 3 года. Кредит предоставляется в белорусских рублях на срок до 7 лет с возможностью досрочного погашения.* – **М.Э.**). На данный момент мы вошли в топ-10 самых продаваемых новых машин на белорусском рынке. У Geely шестая позиция. За апрель было продано 204 автомобиля. По динамике и количеству продаж мы идем лучше, чем Toyota, Ford. Но не надо забывать, что мы продаем только одну модель – Geely Atlas NL3. Безусловно, когда выйдем на рынок еще с двумя новыми моделями, рассчитываем улучшить эти показатели.

**– А когда ждать пополнения в модельном ряду Geely?**

– Серийно летом будет выпускаться кроссовер Geely Atlas NL4 – это, если так можно сказать, упрощенная версия выпускаемой сейчас модели NL3. Она и по цене будет дешевле. К концу лета – в начале осени планируем наладить серийный выпуск седана Geely FE3. Это автомобиль класса *Volkswagen* Jetta, его цена будет существенно ниже по сравнению с флагманской моделью Geely Atlas. Уже начинаем предпродажи, знакомство потребителей с этими моделями.




ЦЕНА ВОПРОСА

## У них дешевле

*Любопытно, что в России выпускаемый на «БелДжи» Geely Atlas NL3 стоит дешевле, чем на белорусском рынке.*

На сайте официального дилера автомобилей Geely ООО *«Лакшери Моторс плюс»* находим вот такую таблицу цен для белорусского рынка в национальной валюте:

### Цены для реализации на территории Республики Беларусь на автомобили GEELY ATLAS

| Комплектация | Объем двигателя | Трансмиссия | Привод | Цена, в т.ч. НДС 20% BYN |
|---|---|---|---|---|
| Base | 2.0L | 6MT | 4x2 | 35.200,00 |
| Comfort | 2.0L | 6MT | 4x2 | 39.700,00 |
| Comfort | 2.4L | 6AT | 4x2 | 41.700,00 |
| Luxury | 2.4L | 6AT | 4x2 | 45.100,00 |
| Comfort | 2.4L | 6AT | 4x4 | 45.800,00 |
| Luxury | 2.4L | 6AT | 4x4 | 48.600,00 |

В то же время в российской прессе есть информация об официальном старте продаж Geely Atlas NL3 в России, который, к слову, проходил очень торжественно. На церемонию приехали генеральный директор Geely Auto Group **Ань Цуйхуэй,** дизайнер компании **Питер Хорбери** и заместитель министра промышленности Беларуси **Геннадий Свидерский**, который сейчас временно возглавляет завод «БелДжи».

На официальном сайте дилера Geely в России «Джили моторс» опубликованы цены на белорусско-китайский автомобиль для российского рынка. И получается, что базовая модель Geely Atlas NL3 с объемом двигателя 2,0 л и шестиступенчатой коробкой передач стоит 1.029.990 российских рублей. Вариант Comfort на 100 тысяч дороже. То есть получается, что базовая модель Atlas в Беларуси предлагается за 35.200 белорусских рублей, а в России, по официальному курсу, – за 32.845 белорусских рублей. Вариант Comfort – за 39.700 белорусских рублей для белорусов и за 36.034 белорусских рубля для российских покупателей. Мы что, богаче россиян? Почему по сути отечественный автомобиль на внутреннем рынке стоит дороже, чем на российском?!

**Мария ЭЙСМОНТ.**

СУД!

## Бывший активист БРСМ получил 6 лет лишения свободы за создание финансовой пирамиды

**Артем Мосейчук приговорен к 6 годам лишения свободы в колонии усиленного режима с конфискацией имущества и штрафом 2500 базовых величин (61.250 рублей) за незаконную предпринимательскую деятельность и мошенничество.**

В доход государства также должны быть взысканы 319 тысяч рублей, полученные преступным путем. В частности, на эти цели будут направлены 6 тысяч долларов, изъятые у Мосейчука в ходе обыска.

В свое время Артем Мосейчук был одним из заметных активистов БРСМ. В 2015–2016 годах он являлся одним из участников (по версии силовиков – руководителем) белорусской ветки компании Kairos Technologies, которая занималась привлечением денежных средств населения. Столичные следователи установили обстоятельства функционирования «финансовой пирамиды» на территории Беларуси.

По выводам следствия, 25-летний мужчина в период с января 2015 по сентябрь 2016 года руководил белорусской ячейкой Kairos Technologies и привлекал новых «вкладчиков». Люди предоставляли часть жесткого диска в аренду и оплачивали вступительный взнос – от 125 до 2777 долларов. После этого вкладчики получали ежемесячно доход якобы за хранение зашифрованной информации крупных корпоративных клиентов. При этом выплаты производились за счет новых «инвесторов» компании.

Оплачиваемая аренда части жесткого диска являлась основой легенды, согласно которой деятельность компании осуществлялась исключительно в IT-сфере. При этом по надежности, скорости доступа и цене предлагаемая услуга не могла конкурировать с аналогичными продуктами крупных компаний.

Ветка структуры Артема Мосейчука насчитывала 108 вкладчиков, суммарный доход составил свыше 326 тысяч рублей.

Мосейчук был задержан 30 сентября 2016 года. Его действия были квалифицированы по ч.3 ст.233 (Незаконная предпринимательская деятельность, сопряженная с привлечением денежных средств, с получением дохода в особо крупном размере, совершенная организованной группой) и ч.3 ст.209 (Мошенничество) Уголовного кодекса Беларуси.

Артем Мосейчук не признавал свою вину в полном объеме.

Приговор суда может быть обжалован в течение 10 суток.

(TUT.by.)

АКТУАЛЬНАЯ ТЕМА

# Насчитать тысячу рублей средней зарплаты не получилось. Получится ли заработать?

### В банке вакансий – предложения с зарплатой в 6 рублей

Судя по предложениям банка вакансий, процесс будет идти тяжело. В регионах, да и в столице, многие и не мечтают о средней зарплате по стране. В Республиканском банке вакансий в большинстве случаев можно найти лишь малооплачиваемую работу.

Банк вакансий обновляется практически ежедневно. Например, 7 мая в нем было 66.267 вакансий, а 8 мая – уже 67.712. Казалось бы, работы хватает – только выбирай по душе и умениям! Однако в базе данных слишком много предложений с зарплатами, за которые невозможно прожить, а также формальных объявлений о поиске работника на место, которое на самом деле уже занято.

Особенно странными кажутся предложения о работе на сотые доли ставки с зарплатой в размере нескольких рублей. Например, на 6 рублей зарплаты (0,02 ставки) ищут кухонного рабочего в Большеэйсмонтовский ясли-сад.

Работодатели называют такие вакансии хвостами – это часы, которые остались после того, как другие работники взяли на себя допустимую по трудовому законодательству нагрузку.

По сути, это фиктивные вакансии, и когда за счет таких предложений о работе пополняется банк вакансий, причин для радости нет. То есть информация банка вакансий даже в общих чертах не отображает реального состояния рынка труда.

Большая часть вакансий в банке (34.563 из 67.712) – это предложения с зарплатами до 400 рублей, в том числе 16.765 – до 305 рублей. Собственно, минимальную зарплату (305 рублей) предлагают по 13.177 вакансиям.

### Зарплаты стали меньше даже у тех, кто зарабатывает больше других

С зарплатой от 1000 рублей работы в Республиканском банке вакансий гораздо меньше – 2643 предложения, из которых 958 – в Минске.

Самые высокие зарплаты предлагают топ-менеджерам или эксклюзивным специалистам, например, гражданским летчикам. В феврале 2018 года именно пилоты оказались на первом месте по зарплатам. Командиру (пилот, летчик) воздушного судна в авиакомпании «Белавиа» можно было рассчитывать на зарплату в 20.000 рублей. В настоящее время, судя по информации Республиканского банка вакансий, на ту же позицию «Белавиа» ищет специалиста, которому предлагается зарплата 12.000 рублей.

Означает ли это, спросили *Naviny.by* в пресс-службе национального авиаперевозчика, что зарплаты пилотов компании снизились? Как пояснили в «Белавиа», зарплаты не упали, просто ранее указывался «грязный» оклад без учета выплаты налогов. «*Вообще же, итоговая сумма всегда зависит от налета конкретного специалиста*», – отметили в «Белавиа».

В топ-5 самых высокооплачиваемых вакансий должность пилота «Белавиа» по-прежнему входит:

1. директор, ООО «Йуск» (зарплата от 17.093,03 рубля),
2. директор, унитарное предприятие «Медицинская Ресурсная Компания» (от 12.790 рублей),
3. командир (пилот, летчик) воздушного судна – инструктор, «Белавиа» (от 12.000 рублей),
4. начальник производства, ИООО «ЭфесТрэйд БиУай» (от 11.800 руб.),
5. директор, ИООО «АРХИГРУПП» (от 8400 рублей),

Отметим, что и в конце 2017-го, и в начале 2018-го в рейтинге по зарплатам лидировали директора, пилоты, а также спортивные тренеры национальных команд. Однако на первых позициях тогда были предложения с зарплатами от 20 тысяч рублей, теперь они значительно ниже.

### IT-сектор проблем в экономике не замечает

Руководитель белорусского офиса международной компании по поиску топ-менеджеров Pedersen & Partners **Лола Трапш** согласна с наблюдением *Naviny.by* о том, что зарплаты топ-менеджеров в последние годы несколько уменьшились:

*«Я бы сказала, что в общей массе размер зарплат снизился, хотя этот общий вывод несколько натянут, потому что многое зависит от сферы, в которой работает бизнес. Например, на секторе IT проблемы бизнеса вообще не сказались. На других индустриях Беларуси и соответственно на выплачиваемых там зарплатах негативно отразилось введение санкций против России».*

Лола Трапш считает, что возросшее ужесточение требований к кандидатам на вакансии топ-менеджеров демонстрировать *«изысканные компетенции – это тоже косвенное или скрытое снижение зарплат».*

К таким компетенциям можно отнести знание экзотических или множества языков, опыт работы на знаковых должностях за рубежом, сложно специализированные навыки и так далее.

В 2018 году высокие требования на позиции с очень большой по белорусским меркам зарплатой останутся и будут только ужесточаться, а зарплаты топ-менеджеров будут чуть увеличиваться, считает собеседник *Naviny.by*.

Лола Трапш отметила, что теперь в Беларусь возвращаются топ-менеджеры, когда-то уехавшие из страны. На топовые должности охотно приезжают и россияне, и европейцы. И работодатель, особенно в диверсифицированных компаниях, порой отдает предпочтение не белорусу-руководителю, а иностранцу:

*«Очень многие прибегают к тому, чтобы нанять руководителя со стороны, который ничем не связан в Беларуси, посвятит 120% своего времени работе и без сантиментов будет решать вопросы собственника или компании».*

*«Зато у белорусов есть свои плюсы: исполнительность, ответственность, а уровень порядочности в разы выше. К слову, такая слава у белорусских специалистов и за рубежом»*, – отметила Лола Трапш.

**Елена СПАСЮК.**

*(Naviny.by)*

Народная Воля http://www.nv-online.info
11 МАЯ 2018 г.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Самоубийство в Бобруйске

Трагический уход из жизни директора Бобруйского городского молокозавода Татьяны Корниловой вновь поставил вопрос о психологическом состоянии нашего менеджерского корпуса.

Хорошего управленца в Беларуси всегда растили и берегли. Дело даже не в лечебных пособиях, в возможности нормально отдохнуть – по советским временам в Крыму отдохнуть можно было действительно хорошо и недорого. И у нас, на Нарочи например, стояли прекрасные (по тем меркам) санатории, а в соседней Литве был Друскининкай. А еще Трускавец в Украине. Для особо заслуженных были курорты Болгарии, Чехии, Венгрии, дома отдыха в Польше. Я помню это: мама моя дважды за долгую жизнь воспользовалась такой возможностью съездить за границу и отдохнуть. Но мы и в санатории «Рось», и в друскининкайской «Беларуси» отдыхали. А мама была всего лишь старшим мастером сигаретного цеха гродненской табачки. Но цех ее был передовым.

Мама рассказывала мне о легендарном своем директоре Павле Петровиче Сергееве. Я еще застал его – круглого, добродушного, похожего на артиста Георгия Менглета, загримированного под Уинстона Черчилля. Сергеев, человек, который не мог похвастаться не только двумя, но и одним высшим образованием, был прирожденным руководителем фабрики. Он был требователен, но вежлив, умел смягчить горечь выговора улыбкой. И главное: он твердо знал, что есть непреодолимой силы объективные обстоятельства, что начальник цеха, инженер, специалист не могут прыгнуть выше собственной головы.

И партийные руководители Гродненской области отличались тем же. 12 мая исполняется сто лет со дня рождения Леонида Герасимовича Клецкова, многолетнего первого секретаря Гродненского обкома партии. Еще живо поколение, которое его помнит. Он не кричал, не стучал по столу. Зачем? Руководители всех уровней знали, чего от них требуют, были уверены, что «первый» проконтролирует исполнение принятого решения и спросит за то, насколько качественно оно исполнено. Но никогда Клецков не оскорблял людей, не тыкал им, не угрожал тюрьмой. Он знал проблемы предприятий и знал проблемы людей. Ему не нужна была личная лояльность: дело, прежде всего дело.

Когда Клецков уходил, я был всего лишь учителем в средней школе. Уже шла перестройка, директора и заведующие чувствовали определенный уровень самостоятельности. От них требовали результат, но – не любой ценой. Каждому было комфортно со своим непосредственным шефом. Они спокойно работали. Может быть, этому способствовала атмосфера.

Самоубийство среди гродненской управленческой элиты случилось всего однажды. О нем не было принято говорить вслух, тем паче – рассказывать детям. Но я знал, что застрелился муж одной из маминых сослуживиц, занимавший высокий пост в горисполкоме. Это было ЧП такого уровня, что скрыть его не удалось. Но и пресса о нем не писала. Время было не то – догорбачевское было время.

Что же произошло сейчас, почему один за другим добровольно уходят из жизни, умирают в СИЗО от сердечных приступов, в ужасе бегут из страны руководители, которым доверяют их подчиненные, которые вполне справляются с производственным процессом? Выскажу предположение: они не справляются с другим – с состоянием постоянного стресса, в котором пребывают. С хамством вышестоящего начальства, постоянно тыкающего, демонстрирующего свое неуважение. И всячески пытающегося напугать.

Я неоднократно писал уже об этом. И даже устал писать. Но если я устал писать, можно себе представить, как устали жить в атмосфере постоянного нагнетания административного ужаса те, на кого этот ужас, собственно говоря, и направлен. Тем более когда государственный аппарат постсоветской Беларуси генетически еще помнит и энергичного Мазурова, и улыбающегося Машерова, и сложного, но вполне интеллигентного Киселева, и жесткого – но все же не до такой степени, чтобы после его речей в петлю лезть, – Слюнькова. Белорусские бюрократы и управленцы готовы к отставкам, но дайте им по крайней мере уходить естественной кончиной – и административной (отставкой), и физической (смертью от старости или болезни). Но действующая власть сначала создает максимум условий для развития и процветания коррупции в стране, вводя бесконечные заградительные барьеры для развития бизнеса – причем преодолеть эти барьеры можно, лишь преодолев страх чиновника, дав ему взятку. А потом за взятки сажает.

Но – самое интересное – не только ужас перед наказанием за коррупцию заставляет чиновника лезть в петлю. По отношению к руководителям не существует презумпции невиновности. Невыполнение плана, несоответствие результатов деятельности поставленным показателям, проколы подчиненных, «захлопывание» российского рынка и падение производства – во всем виноваты они. И потому они живут в постоянном ожидании наручников, следственного изолятора, наказания за не совершенное ими преступление. Отсюда – побеги из страны. Отсюда – петля как избавление от вечного стресса.

И лишь когда их выпускают из тюрьмы и вновь назначают на руководящую должность, они, выжившие, бурно радуются:

– Ур-ра-а! Царь разобрался! Мы ни в чем не виноваты! Можем работать дальше!

Нервные клетки, растраченные в тюрьмах, не восстанавливаются (знаю по собственному опыту). Иногда не восстанавливаются и те, которые растрачены на мнимой, кажущейся свободе. Ибо какая может быть свобода, если ты ищешь спасения от нее в петле?

**P.S.** Перед подписанием номера в печать я сделал несколько звонков в Бобруйск. Следствие идет, изучаются все версии случившегося с Татьяной Корниловой. Но те, с кем я разговаривал, отрицают связь ее гибели с какими-либо семейными неурядицами.

ЖАХ!

## Закінуў вуду…

Рыбак на рацэ Заходняя Бярэзіна паблізу вёскі Замосце загінуў ад удару токам. Ён закрануў вудай провад паветранай лініі 35 кВ. Мужчына быў дастаўлены ў бальніцу, медыкі канстатавалі смерць пацярпелага.

ФИНАНСЫ

## Максимальный кредит – 15 тысяч рублей

С мая белорусы могут брать взаймы у банков по новым правилам: расходы по займу не должны превышать 40% среднемесячного дохода, а сумма кредита не может быть выше 90% стоимости залога.

Сколько может позаимствовать у банка белорус, получающий среднюю зарплату по стране (в марте она составила 926 рублей)?

В Банке «Москва–Минск» посчитали, что максимум, который можно взять взаймы у банка под проценты, 15 тыс. рублей сроком на 60 месяцев. В этом случае ежемесячный платеж составит около 368 рублей, что на 2 рубля меньше порогового значения.

А чтобы взять у банка, скажем, 20 тыс. рублей на 5 лет, нужно зарабатывать около 1230 рублей в месяц.

Для оформления кредита в каждом случае потребуется справка о доходах.

КРАЎДФАНДЫНГ

## 8 тысяч рублёў на ўшанаванне памяці Адамовіча

На пачатку гэтага года наша славутая пісьменніца, нобелеўскі лаўрэат **Святлана Алексіевіч** ахвяравала 5 тысяч долараў на стварэнне музея **Алеся Адамовіча** ў пасёлку Глуша Бабруйскага раёна. Аднак гэтых сродкаў не хапае. Больш за тое, дагэтуль таленавіты пісьменніка, сцэнарыст, чалавек, які не баяўся адстойваць праўду, не ўганараваны ні помнікам, ні бюстам, ні нават шыльдай. Таму на краўдфандынгплатформе Talaka распачаты збор сродкаў.

*– Ужо шмат гадоў робіцца спробы стварыць музей, але не хапае сродкаў. Таму мы, ініцыятыўная група "Прыпынак Адамовіча", робім усё магчымае, каб ушанаваць памяць пісьменніка,* – кажуць аўтары ідэі. – *Сярод нашых ідэй – стварэнне сквера, усталяванне бюста Алеся Адамовіча і стварэнне арт-аб'екта "Прыпынак Адамовіча".*

Ініцыятары праекта нагадваюць, што было сабрана амаль 1000 подпісаў за ўшанаванне памяці Алеся Адамовіча, а ўзгадненне на ўсталяванне бюста пісьменніка атрымана з Міністэрства культуры. *"Разам мы зможам годна ўшанаваць памяць Алеся Адамовіча"*, – адзначаюць аўтары ідэі.

Сабраць трэба 8000 рублёў. Сума ахвяраванняў розная, ад 5 да 5 тысяч рублёў. На сайце Talaka ў раздзеле "Праекты" ўтрымліваецца ўся інфармацыя аб пералічэнні грошай. І пакуль, на жаль, збор сродкаў ідзе не так актыўна, як хацелася б. Але да завяршэння кампаніі застаецца больш за месяц.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

НЕДВИЖИМОСТЬ

## Чем ближе к Минску, тем дороже дачи

*Когда лучше покупать небольшой загородный домик?*



*Начальник отдела «Дома. Дачи. Коттеджи» агентства недвижимости "Твоя столица" Елена Акулич считает, что сезонность сделки – не главное. На цену больше всего влияет месторасположение дачного поселка. Поэтому зачастую приобретаются дачи за пределами Минского района. Например, для летнего отдыха в формате «выходного дня» за 5–8 тысяч долларов можно приобрести аккуратную дачу на участке в 5 соток.*

– Дома в деревнях выбирают те покупатели, кому интересно земледелие и более продолжительный по сравнению с дачным период проживания за городом, – *говорит Елена Акулич.* – Деревенские дома, в отличие от простых дач, обязательно имеют печное отопление, а за счет капитальности строения пригодны для круглогодичного проживания. Зачастую на участках есть колодцы, а площади земельных участков начинаются от 10 соток.

Цены на деревенские дома, помимо удаленности от МКАД и транспортной доступности, во многом зависят от состояния дома, поскольку возраст большинства из них перевалил за шестой десяток. Хозяйственные постройки существенно цену не увеличивают, но если их состояние требует демонтажа, то цена от этого может снизиться – ведь это заботы нового хозяина.

До сих пор среди продавцов загородной недвижимости существуют два больших заблуждения, которые только усложняют продажу. Первое из них гласит, что спрос на загородную недвижимость значительно подвержен сезонности – в холодное время года снижается или даже исчезает, а весной и летом – увеличивается в разы. Второе заблуждение исходит из первого – что всплеск покупательской активности с приходом тепла позволяет рассчитывать на поднятие цен.

В реальности все немного иначе. Во-первых, стабильный спрос на загородные объекты, будь то легкие дачи или коттеджи, присутствует круглый год. Поэтому снимать объекты с продажи на зиму не очень хорошая идея.

Во-вторых, общая тенденция ценообразования на загородную недвижимость – отрицательная. То есть выгоднее было бы продать вчера, чем сегодня. Это происходит как из-за усиления конкуренции среди продавцов на фоне роста количества выставляемых на продажу объектов, так и из-за недостатка финансов в ситуации роста цен на продукты питания и прочие блага. Если приобрести дачу еще могут себе позволить, то на ее содержание и поддержание в хорошем состоянии просто нет средств. Да и режим жизни наших соотечественников сейчас таков, что зачастую времени на отдых за городом уже нет.

В этой ситуации залогом успешной продажи выступает адекватная стоимость. А ее можно определить только по совершенным сделкам, но никак не по объявлениям других продавцов. Цены в рекламе – это лишь желания продавцов, в которых учитываются вложенные в строительство и отделку дома средства без учета снижения стоимости стройматериалов и т.п. К тому же покупателей совершенно не волнует, какую денежную сумму когда-то вложил продавец. В ситуации широкого выбора загородных домов и дач покупатели зачастую могут найти более дешевую альтернативу.

БЕЗ ТЭРМІНУ ДАЎНІНЫ



## Хто кампенсуе Маі Абромчык судовыя і медыцынскія выдаткі?

У снежні 2010 года фота мінскай студэнткі Маі Абромчык на бальнічным ложку абляцела ўсе незалежныя СМІ. Падчас разгону мірнай акцыі 19 снежня 2010 года на плошчы Незалежнасці Маі зламалі нагу амапаўцы. Беларуская суды тады не захацелі знайсці вінаватых у прычыненні дзяўчыне цяжкай траўмы, крымінальную справу завялі, але на нявысветленую асобу. А між тым лячэнне і рэабілітацыя пасля складанага пералому доўжылася цягам года, за гэты час Майя перанесла тры аперацыі. У 2013 годзе дзяўчына заявіла, што будзе выкарыстоўваць усе законныя метады, каб дамагчыся справядлівасці, і звярнулася у Камітэт па правах чалавека ААН.

Нядаўна расійскі адвакат **Сяргей Галубок** паведаміў праз сацыяльныя сеткі, чым скончылася разбіральніцтва «Абромчык супраць Беларусі» ў Камітэце па правах чалавека ААН.

*– Камітэт у адпаведнасці з артыкулам 7 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах прыняе да ведама сцвярджэнне аўтара звароту аб тым, што 19 снежня 2010 года пасля таго, як яна назірала за мірным сходам у цэнтры Мінска, яна была збіта супрацоўнікамі паліцыі, што прывяло да пералому нагі, сямі дзён шпіталізацыі і доўгай частковай непрацаздольнасці,* – піша адвакат. – *Камітэт лічыць, што прадстаўленыя факты ўяўляюць сабой парушэнне правоў аўтара ў адпаведнасці з артыкулам 7 Пакта...*

*У дадзеным выпадку больш як праз сем гадоў вінаватыя па-ранейшаму павінны быць выяўлены і прыцягнуты да адказнасці...*

*Камітэт лічыць, што прадстаўленыя факты сведчаць аб тым, што дзяржава не здолела належным чынам расследаваць абвінавачанні і сцвярджэнні, прадстаўленыя аўтарам. У дадзеным выпадку дзяржава – ўдзельнік Пакта абавязана:*

*А) правесці поўнае і эфектыўнае расследаванне сцвярджэнняў аўтара пра жорсткае абыходжанне, прыцягнуць да адказнасці вінаватых і пакараць іх адпаведнымі санкцыямі;*

*В) даць належную кампенсацыю і адпаведныя меры сатысфакцыі, уключаючы пакрыццё любых юрыдычных выдаткаў і медыцынскіх расходаў, а таксама нематэрыяльных страт заяўніцы;*

*С) прынесці афіцыйныя прабачэнні заяўніцы.*

*Дзяржава таксама абавязана прыняць усе неабходныя захады па прадухіленні аналагічных парушэнняў у будучыні праз свае абавязацельствы як падпісанта Факультатыўнага пратакола, каб супрацоўнічаць у духу Камітэта».*

Зараз Мая Абромчык жыве ў Польшчы, працягвае навучанне і не вельмі ахвотна распавядае пра сваё жыццё і планы на будучыню.




**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ТУРЫЗМ-2018

## «Цікавасць беларусаў да Крыма стала практычна нулявой…»

*Эксперт у вобласці турызму Лілія Кобзік распавяла "Народнай Волі", якім накірункам беларускія турысты аддадуць перавагу ў гэтым годзе.*

– Тэндэнцыя такая, што людзі схільныя эканоміць на адпачынку, таму ў гэтым годзе запланавана вялікая колькасць аўтобусных тураў ва ўкраінскія Адэсу і Затоку, – кажа наша суразмоўца. – Напрыклад, тур на 10 дзён з харчаваннем і праездам можна купіць за 160–240 долараў.

Але, магчыма, некаторыя вырашаць правесці час і ў Беларусі на аграсядзібах, бо санаторны адпачынак у нас не вельмі танны. Ды і санаторыі – гэта найперш лячэнне.

**– У апошні час сярод беларусаў карыстаецца папулярнасцю і Балгарыя…**

– Так, але Балгарыя – гэта ўжо больш дарага, таму што туды ў асноўным трапляюць самалётам. Зараз яшчэ можна знайсці туры пуцёўку да 400 еўра, але летам пуцёўкі будуць даражэць – да 500–600 еўра на чалавека. З улікам іншых выдаткаў усяго давядзецца патраціць на адпачынак каля 1000 еўра, а 2 тысячы еўра (калі адпачываць з сям'ёй) не ўсім па кішэні.



**– Адпачынак зараз падаражэў?**

– Падаражэў турэцкі накірунак, бо туды вярнуліся расіяне і еўрапейцы. Туркі пасля крызісу хочуць зарабіць, а таму паднялі кошты. У маі яшчэ можна ўбачыць прывабныя варыянты адпачынку ў Турцыі, але ў чэрвені знайсці пуцёўку за 500 долараў ужо будзе праблемай.

Традыцыйна едуць беларусы і ў Грэцыю, і там вельмі шмат цікавых прапаноў адпачынку на астравах. Прыгожая прырода, камерная абстаноўка – гэта тое, што нашы людзі любяць. Гэтак жа як і Іспанію, куды беларусы адпраўляюцца штогод.

Калі казаць пра Чарнагорыю, то накірунак таксама заўсёды папулярны. Не патрэбны візы, у краіне вельмі падобная мова, таму праблем у зносінах з мясцовыя практычна няма. Але, натуральна, гэта ўсё больш дарага.

**– Ведаю, што зараз з'явіўся яшчэ адзін дастаткова танны накірунак – Албанія…**

– Нашы турысты і насамрэч паехалі ў Албанію толькі ў мінулым годзе, і на чэрвень можна знайсці пуцёўку на 8 дзён за 370 еўра (двухзорквы гатэль са сняданкам). І пры гэтым трэба ўлічваць, што ў краіне вельмі нізкія ўнутраныя цэны, асабліва – на морапрадукты. Краіна толькі нядаўна выбралася з-за "жалезнай заслоны", таму не можа сабе дазволіць адпалохваць турыстаў высокімі коштамі.

**– Турыстычны сезон ужо практычна ў разгары…**

– Так, але грошай у людзей больш не стала, таму патокі турыстаў у гэтым годзе, мяркую, не павялічацца, а застануцца на ўзроўні мінулага года.

**– З Крымам сітуацыя застаецца ранейшай? Беларусы туды не едуць?**

– Я не бачу пакуль падстаў, каб сітуацыя вярнулася ў ранейшае рэчышча. Трэба адзначыць, што некаторыя беларускія кампаніі прапаноўваюць Крым, але робяць гэта дастаткова сціпла, бо попыт туды абмежаваны. На Крымскі паўвостраў калі і едуць, то фанаты, для якіх адпачынак там – старая традыцыя. Раней туды штогод ездзіла каля паўмільёна беларускіх турыстаў, а ў 2014 годзе – 6 тысяч. Прыкладна на гэтым жа ўзроўні турыстычны паток застаецца і зараз. Зніжэнне колькасці турыстаў амаль у 100 разоў азначае адно – цікавасць да гэтага накірунку з боку беларусаў стала практычна нулявая.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Смяюцца куры з пракуратуры

Калі шасцёра жанчын (маці асуджаных за наркотыкі юнакоў) распачалі галадоўку ў Калінкавічах, пракуратура папярэдзіла гаспадыню кватэры аб адказнасці за прадастаўленне памяшкання для несанкцыянаванага мерапрыемства.

Душа сціскаецца ад скрухі,
Ды так было ва ўсе вякі,
Што хтосьці пухне з галадухі,
А хтось жарэ
У дзве шчакі.
Несправядлівы вырак гэты
Наканаваў, на жаль, Гасподзь…
А ў нас няшчасныя кабеты
Адгаладалі дабрахоць!
Пілі адну ваду жанчыны
Какавы з булачкай замест.
Не важна, з-за якой прычыны, –
Яны выказвалі пратэст.
Жанкі сабраліся ў кватэры
(Быў не на вуліцы “пікет”!),
Глыталі сліны ў час вячэры,
Сушылі страўнікі ў абед.
Здавалася б, няма крамолы.
Мы ўсе сабе гаспадары:
Спявай, скачы, бадзяйся голы
Кватэры ўласнае ўнутры;
Уволю жэрці маеш права,
А ёсць жаданне – галадай…
Каб ты й сканаў, дык нецікава
Нікому не было б, бадай!
Аднак жа, бач, пракуратуру
Усхваляваў расклад такі.
Яна ўзняла, як кажуць, буру:
Закон парушылі жанкі!
А гаспадыню той кватэры
Сурова пакараць бы след.
Пракуратура прыме меры,
Калі не спыніцца пікет.
Аж смешна гэта, скажам прама:
Калі захочацца ў гурбе
Пагаладаць, дык выканкама
Патрэбна мець дазвол табе.
А заўтра можа быць крамолай
Ужо якраз наадварот,
Калі ў кампаніі вясёлай
Сабе ты пхаеш ежу ў рот.
Або, напрыклад, селі госці,
Якіх ты запрасіў, за стол.
А тут з пракуратуры хтосьці
У дзверы прэ:
– А дзе дазвол?
Ці, скажам, хлопцы без дазволу
Паехалі на шашлыкі.
Дык іх за гэтую крамолу
Парвуць службоўцы на шматкі!
Прадстаўнікоў пракуратуры
Баяцца стануць, як чумы!
Ды з іх смяяцца будуць куры.
Давайце пасмяёмся й мы.

* * *

Швейцарыя – краіна тая,
Дзе люд жыруе будзь здароў!
А ў нас амаль што галадае
Ледзь не палова жыхароў.
Ды нашая пракуратура
На гэты “масавы пікет”
Чамусь не пазірае хмура,
Як на знясіленых кабет…

### Галасаваць не ўмеюць

– Жыццё – шаша,
Што без канца і краю.
Чакаюць беларусы ля шашы,
Ды іх, на жаль,
Ніхто не падбірае…
– Галасаваць не ўмеюць бульбашы!

### Перад скачком

Валюта – хадавы найбольш тавар,
І кожны назапашвае цішком…
– Ты чуў навіну?
Падае даляр!
– Ды гэта ён прысеў перад скачком!

### «Бандэравец»

– Я заляплю вам аплявуху,
Бо вы бандэравец па духу!
– Ну так… І ў нас падобных многа –
Уся, прынамсі, сінагога…

### Не зарабляе, дык крадзе

Калі работнік не шукае
Заробак лішні дзе-нідзе,
Выснова просіцца такая:
На працы ўсё-ткі ён крадзе.

### Звычай

Звычай гэты ўжо стары,
І дзівіўся ім заўжды я:
У Берліне, Анкары
Шлюбнай ноччу маладыя
Не губляюць марна час,
Маюць першы секс харошы,
І, напэўна, толькі ў нас
Маладыя лічаць грошы…

### У бальніцы

Нашая тыповая бальніца
Гэтакім жыццём цяпер жыве:
Тых, хто там прыстроіўся лячыцца,
Можна падзяліць на часткі дзве;
Там адным, прабачце мне, хрэнова –
Хворыя, канешне, сапраўды;
А другая, большая, палова
Скардзіцца заўжды наконт яды.

ПАЗІЦЫЯ

## Чым чыноўнік лепшы за звычайнага працаўніка?



Ніякіх асобных бальніц для чыноўнікаў у нас не павінна быць. Усіх трэба лячыць у аднолькавых умовах, таму што жыццё даецца адзін раз і кожны чалавек, калі ён добрасумленна працаваў, служыў народу, грамадству, мае права на ўвагу з боку медыцынскага персаналу.

Чым высокі чыноўнік лепшы за простага чалавека, за звычайнага працаўніка? Нічым. Можа, толькі тым, што ў яго зарплата больш высокая, правоў больш, ільгот больш.

Вельмі сумна, а часам немагчыма назіраць, як чыноўнікі злоўжываюць сваімі правамі, месцам працы. Іх трэба паставіць у аднолькавыя ўмовы з усім народам, асабліва што тычыцца медыцынскага абслугоўвання. Няхай яны не агітуюць купляць прадукцыю айчыннай фармакалогіі, а самі ёю карыстаюцца.

**А.П.НЕСЦЯРОВІЧ, інвалід II групы, былая настаўніца замежных моў, выдатнік народнай асветы Беларусі.**
*г.Чэрвень.*

ИЗ ПИСЬМА

## Я – за реформу судебной системы

Сейчас, как известно, судьи всех уровней назначаются исполнительной властью. Но я хорошо помню, как после войны их избирали прямым голосованием народа. Давным-давно такого нет. Судебная власть теперь находится в руках исполнительной власти. Такого не должно быть, если мы строим демократическое государство.

Судебная власть должна быть независимой от исполнительной. Теперь же наша судебная система зачастую действует в интересах органов госуправления.

Без судебной реформы Беларусь останется в поле правового нигилизма. Косметический ремонт в виде улучшения законодательства дает незначительный эффект.

Назрело время рассмотреть вопрос о создании независимого Конституционного суда, избираемого только народом из числа выдающихся представителей общественности.

**Александр ЗАРЕНОК.**
*г.Калинковичи.*

РЕЗОНАНС

## Односельчанам в Германии было лучше, чем нам в колхозе имени ГПУ

Добрый день, уважаемая редакция! В “Народной Воле” за 23 февраля было опубликовано письмо Петра Быкова “Брат погиб в бою за родину, а нам говорили: “Пускай вам немцы помогают”. Автор надеялся услышать тех, кто попал в похожую ситуацию. Это и заставило меня взяться за перо, поскольку нечто подобное произошло и в нашей деревне Лохница Лельчицкого района.

Я почти ровесник П.Быкова – 1939 года рождения. Во время войны наша деревня была оккупирована немцами. Летом 1943-го деревню сожгли, жители ушли в лес, жили в шалашах. После мы с мамой вернулись и жили в землянке, которую помог соорудить дедушка.

Помню, как немцы вылавливали людей для отправки в Германию. Правда, некоторые соглашались ехать добровольно, называли немцев “наши спасители”. Говорили так, поскольку в памяти были свежи события 1937–1938 годов, когда в деревне из 100 дворов советская власть репрессировала более 50 человек. Люди говорили: забрали по линии НКВД…

После войны человек 30 односельчан вернулись из Германии домой. По настоящее время они имеют статус узников, приравненный к статусу участников Великой Отечественной войны, и получают надбавку к пенсии. К тому же в начале 1990-х немцы им хорошо по нашим меркам заплатили.

Мой отец Петр Куприянович Синицкий ушел в партизанский отряд Федорова, а оттуда – на фронт. Осенью 1944 года мы получили извещение, что он геройски погиб. В 1952-м в Лельчицком райвоенкомате нам вручили награду отца – орден Отечественной войны II степени. Но его судьба не давала мне покоя всю жизнь. В 1967 году я обратился в газету “Правда”, чтобы мне помогли узнать, за какой подвиг награжден мой отец и где он похоронен.

Газета перенаправила мое письмо в архив Министерства обороны СССР в Подольске. Оттуда пришел ответ следующего содержания: “Сообщаем, что во время форсирования реки Висла при прорыве обороны противника 2.8.44 г. в районе деревни Осенбуров и 3.8.44 г. в районе деревни Александрув Петр Куприянович проявил исключительное мужество и отвагу. Несмотря на сильный пулеметно-автоматный огонь противника и обстрел из самоходных пушек, он первым ворвался в оборону противника, уничтожил 1 станковый пулемет с расчетом 7 немцев и 1 снайпер. В этом бою тов.Синицкий погиб смертью храбрых”.

После развала Советского Союза я обратился в Белорусский Красный Крест и узнал, что отец перезахоронен на кладбище в Варшаве, номер могилы указывался. Я обратился в органы местной власти за материальной помощью, чтобы навестить могилу отца. Выделили смехотворную сумму, которую я отказался получать. И только в 2001 году благодаря гомельской организации “Гражданская инициатива” я вместе с ее руководителем Виктором Корниенко побывал в Варшаве.

Начиная с 1994 года я обращался в Гомельский облисполком с просьбой посодействовать в увековечении памяти отца. Было рекомендовано решить вопрос положительно, но в Лельчицком райисполкоме все заглохло. И до сих пор ничего не решено.

А теперь о льготах, о которых пишет П.Быков в “Народной Воле”. В моем понимании, при Сталине вдовы и матери погибших были более-менее обеспечены. После войны мать до моего совершеннолетия получала ежемесячно 40 рублей. За эти деньги тогда можно было каждый день покупать полбуханки ржаного хлеба. Правда, хату колхоз построил только одной вдове в деревне. Остальные строили себе халупы кто как мог, где и доживали свой век, как моя мама. Кстати, мама должна была ежегодно выработать 120–130 трудодней, за которые в колхозе практически ничего не платили. Все полноценное зерно сдавали, а какую-то шелуху распределяли по 200–300 граммов на трудодень. Колхоз только и держался на вдовах. Более 50 мужиков Сталин расстрелял в 1937–1938 годах, остальных убил Гитлер.

Денег, что платили за погибшего отца, впоследствии не хватало (еще же и налоги нужно было выплатить). Мать вынуждена была что-то со скотины продавать, чтобы купить, например, мне одежду. Помню, как приходил в дом агент по сбору налогов и говорил, что не уйдет, пока мать не найдет деньги. А где их было взять? Помню слова матери: “І дзе тая смерць ходзіць, чаму яна мяне не возьме?” Всего за трудодни мать отработала около 40 лет. И только в 1969 году получила пенсию – 12 рублей...

В конце своего письма хочу обратиться к Петру Быкову. Уважаемый Петр Федорович, я преклоняюсь перед Вами, поскольку знаю, что такое концлагерь. Там выживали не все. Но мои вернувшиеся из Германии односельчане говорили, что им у немцев было лучше, чем нам в нашем колхозе, названном, кстати, в честь ГПУ. Из репрессированных 50 человек домой вернулись всего двое. Остальные 48 были замучены в сталинском ГУЛАГе.

**Василий СИНИЦКИЙ.**
*Лельчицы.*

З ЮБІЛЕЕМ!

*Днямі Уладзіміру Сіўчыкаву, пісьменніку і даўнішняму аўтару “Народнай Волі” споўнілася 60. Сённяшняя падборка навел – яго юбілейны падарунак нашым чытачам.*

*Уладзімір СІЎЧЫКАЎ*

### Спагадлівец

Бізнесоўца Андрэя Раіка ў 1-м Маскоўскім завулку Мінска дый па ўсім горадзе, мабыць, праз сугучча прозвішчаў, завуць Райкіным, хоць і не мае ён аніякіх адносін да славутых артыстаў-сатырыкаў.

На наступны дзень пасля Раікавага дня нараджэння ягоны сусед па сядзібе Ігар А. па мянушцы Камісар пазваніў імяніннікавай жонцы:

– Ты, Светка, канечне, можаш і не запрашаць мяне сёння на вячэру, але ўяві сабе, колькі салатаў і нават шашлыкоў давядзецца табе выкінуць! А калі сябры ды найбліжэйшыя суседзі не дапамогуць знішчыць барыла гарэлкі, якой тваё госці не далі рады ўчора, дык сёння ўсю яе выжлукціць твой Андрэй. Я, канечне, магу і не прыходзіць, але ж ты падумай як след, паклапаціся пра мужава здароўе.

Супраць апошняга аргумента Святлана анічога не змагла запярэчыць, паспешліва прагаварыла: “Прыходзь, Ігар, на абед з жонкаю. Мы заўсёды табе рады!” – і кінулася зноўку збіраць на стол.

Тым болей што добра ведала яна: хай ужо лепей дома, пад яе наглядам сядзяць. Ведала яна і тое, што абодва любяць свойскія напоі і ў кожнага ў гаражы стаіць адмысловы апарат. На адным напісаны слоган “Гарэлка – вораг! Ганіце яе!”, а на другім – “Гарэлка – вораг, але ворагаў мы не баімся. Мы іх знішчаем!”

### Ветэранскі канфуз

Дацэнт Вольга Міхайлаўна Ц., адзін з першых славістаў Белдзяржуніверсітэта, чытала курс лекцый па гісторыі славянскіх літаратур народаў СССР, гісторыі літаратур краін народнай дэмакратыі, якія пазней сталі звацца сацыялістычнымі краінамі, па гісторыі замежнай літаратуры XX стагоддзя, а таксама даследавала творчасць славянскіх пісьменнікаў.

Была яна ўзнагароджана медалямі “Ветэран працы” і “За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941–1945 гг.”.

Аднаго дня ў сярэдзіне 1980-х гадоў прымала яна іспыт па замежнай літаратуры XX стагоддзя ў студэнтаў аддзялення беларускай і рускай мовы і літаратуры, і раптам як чорт яе панёс. Захацелася ёй “заваліць” не абы-каго, а сына беларускага празаіка, драматурга і літаратуразнаўцы, доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі Беларускай ССР, старшыні Вярхоўнага Савета БССР Івана Якаўлевіча Навуменкі.

Пасля таго як студэнт амаль што бездакорна адказаў на пытанні экзаменацыйнага білета, стала яна задаваць пытанні дадатковыя, але і яны не далі аніякай зачэпкі, каб хаця б занізіць адзнаку.

– А ці чыталі вы, Павел Іванавіч, – знарочыста ветліва спыталася яна, – раман ірландскага пісьменніка Джэймса Джойса “Уліс”?

– Чытаў, – не міргнуўшы вокам, адказаў студэнт. – Гэта найзнакаміцейшы раман Джэймса Агасціна Алаітэса Джойса, вялікага ірландскага англамоўнага празаіка і паэта, класіка і адначасна разбуральніка класічных канонаў, майстра, якому больш, чым каму іншаму, абавязаны сваім нараджэннем новыя літаратурныя школы і накірункі XX стагоддзя…

Экзаменатарка вытрымала эфектную паўзу і пераможна ўсміхнулася:

– А вось тут вы, шаноўны Павел Іванавіч, патрапілі ў пастку! Як жа вы маглі прачытаць гэты твор, калі ён яшчэ не перакладзены ні на рускую, ні на беларускую мову?!

– А я прачытаў яго па-ўкраінску! Летась ён друкаваўся ў часопісе “Всесвіт”, які здаўна і рэгулярна выпісвае наша сям’я!

### Грузінскія дранікі

Падчас свайго студэнцтва, калі быў ужо старшакурснікам, стажыраваўся Уладзя на філалагічным факультэце Тбіліскага ўніверсітэта.

Аднаго лета запрасілі яго ў горы на фальклорную практыку, дзе пачуваўся ён, не раўнуючы што той студыёзус Шурык са знакамітай гайдаеўскай кінакамедыі “Каўказская нявольніца”. Хіба што замест ішака быў аўтамабіль “Жыгулі”, за рулём якога сядзеў кіраўнік экспедыцыі, загадчык лабараторыі фальклору і этнаграфіі Гія Шаламберыдзе, а ў склад экспедыцыі ўваходзілі таксама ягоны дзесяцігадовы сын Паата і дзве студэнткі-“філаложкі” – Сафіко Каберыдзэ і Манана Кіладзэ.




Спадар, альбо, як кажуць грузіны, батона Гія крыху схітраваў і выправіўся з экспедыцыяй да сябе на радзіму, у Горную Рачу – грузінскую Швейцарыю. Грузія, саманазва якой Сакартвела, зусім неаднастайная і падзяляецца на шэраг гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў – Абхазію, Аджарыю, Гурыю, Джавахецію, Картлі, Кахецію, Месхецію, Менгрэлію, Мтыўлецію, Пшавію, Трыялецію, Тушэцію, Хеўсурэцію…

Рача ж раскінулася ў вярхоўі рэчкі Рыёні і мяжуе з Лечхуміяй і Сванеціяй на паўночным усходзе, з Імярэціяй – на поўдні, і з Паўночнай і Паўднёвай Асеціяй – на ўсходзе.

Уладзя меў ужо вопыт і мастакоўскіх пленэраў, і фальклорнай экспедыцыі ў Старадарожскім раёне, таму пачуваўся досыць упэўнена і камфортна як з нататнікам, так і з бабінным магнітафонам. Хіба што замест традыцыйных беларускіх напояў даводзілася частавацца ў рачыйцаў свойскім вінам, што найчасцей захоўвалася ў маранi – цокальным ці падвальным памяшканні, альбо ў квеўры – гіганцкай амфары, закапанай у двары ці на гародзе.

Пабывала экспедыцыя на вінаградніках ды кукурузных палях, на беразе вадасховішча Ланджнавуры і пры крыніцах з мінеральнай вадою. Наведала знакаміты, ледзь не тысячагадовага веку храм Нікарцмінда, а таксама храм Божае Маці Бараконі ў вёсцы Цэсі сярэдзіны XVIII стагоддзя. Пашанцавала фалькларыстам, бо роднай вёскаю кіраўніка аказалася Хванчкара, знакамітая найперш адпаведнымі гатункамі вінаграду і віна.

Прымалі землякі батона Гіі больш чым гасцінна, таму і Уладзя смакаваў грузінскія стравы ў іх рачыйскіх варыяцыях. Хачапуры – ляпёшкі з запечаным у цесце тварагом, яйкам або зелянінаю. Аджапсандалі – сатэ з баклажанаў, памідораў, салодкага перцу, цыбулі і часнаку з каляндрай ды базілікам. Пхалі – закуску з бланшыраванай ці тоўчанай зеляніны і грэцкіх арэхаў, упрыгожаную гранатавымі зярнятамі і прыпраўленую вострым соусам – спажыўную, але, бывае, не дужа эстэтычную з выгляду. Чахахбілі – рагу з бараніны, ялавічыны, але найчасцей – з мяса птушкі. Сацыві – вострае халоднае рагу з аднайменным соусам з індычкі, качкі або курыцы з тоўчанымі грэцкімі арэхамі. Лобія – фасолю, што пражыцца з мноствам спецый у гліняным гаршчэчку некалькі гадзін. Купаты – кілбасы з крыві ці субпрадуктаў, якія гатуюць, апускаючы ў кіпень літаральна на пару мінут. Хінкалі – вялізныя пяльмені з баранінай, якія вараць або смажаць. Хашы – гарачую тлустую поліўку з рубца, асабліва папулярную нараніцу пасля доўгага застолля. Чурчхелу – “дзіцячы” далікатэс у выглядзе кілбасак – нанізаны на нітку фундук, міндаль або грэцкія арэхі, якія шматкроць акунаюць у загушчаны мукою вінаградны сок і высушваюць…

Ды вось аднаго дня Сафіко з Мананаю крыху какетліва і правакацыйна спыталіся:

– А якія стравы, батона Уладзімір, папулярныя ў вас на радзіме? Што любяць есці беларусы?

– Дранікі! – прагучала ў адказ.

– А можаце прыгатаваць нам гэтыя самыя… дранікі?

Уладзя пачухаў патыліцу, але адступаць не было куды.

Выправіўся на базар, дзе чакала яго суцэльнае расчараванне. Бульбы ўдалося набыць толькі дробнай і маладой, якая не паспела яшчэ як след набраць крухмалу. Смятана таксама аказалася не вельмі тлустай і густой. Але чаго было чакаць ад тамтэйшых кароў – невялікія, што беларускія цяляты, худыя і караскаюцца па горных стромах, нібыта козы!

Ababраў Уладзя бульбу, надраў яе на дробнай тарцы, дадаў старанна нарэзанай цыбулі, тры яйкі і пару лыжак мукі. Падсаліў і ледзь не гадзіну адстаяў каля пліты – пасмажыў дранікі на сланечнікавым алеі.

Пакаштаваў сам – аказаліся надзіва смачныя.

Падаў на стол са скварачкамі і смятанаю, запрасіў каляжанак на дэгустацыю.

Тыя смакавалі з бояззю, і не пабачыў Уладзя на іх тварах ні імпэту, ні захаплення. Хіба што падзякавалі з ветлівасці.

Заставаліся Уладзевы спадзеўкі на батона Гію. Але і той не праявіў нават мужчынскай салідарнасці. Карцела Уладзю спытацца словамі айчыннага класіка: “Ну, дзядзька, як на смак, прызнайся?”, – але баяўся пачуць штосьці накшталт: “Паскудства, брат, і не пытайся!”

Як жа здзівіўся кухар, а ўнутрана і абурыўся, калі пабачыў, як батона Гія прысунуў да сябе цукарніцу, абмакнуў у яе дранік, а пасля абвясціў свой вердыкт:

– Вось так – халодны і з цукрам – нашмат смачнейшы!

Уладзю і мову заняло, але мусіў суцяшацца лацінскім афарызмам: “Пра густы не спрачаюцца!”

Гадоў праз дзесяць дазнаўся Уладзя, што ў Нью-Ёрку дранікі, надраныя на буйной тарцы, чамусьці лічацца стравай яўрэйскаю і завуцца “ладкамі” і што немцы ядуць свой аналаг дранікаў з яблычным джэмам. А малады навуковец-гісторык неяк расказаў яму, што ў студэнцкай сталоўцы Ягелонскага ўніверсітэта ледзь адбіў сваю порцыю дранікаў у кухмістрыні, якая мела намер пасыпаць іх… цукрам!

Народная Воля
http://www.nv-online.info
11 МАЯ 2018 г.

СТОП-КАДР



У Астане і Алматы – акцыі пратэсту, звязаныя з патрабаваннем грамадскасці вызваліць з-за кратаў палітвязняў.

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

## Две работы – это финансовая необходимость

*Количество людей в Германии, которые работают более чем на одном месте работы, постоянно растет – в 2017 году 3,26 миллиона человек имели несколько мест работы, тогда как в 2016 году эта цифра составляла 3,13 миллиона.*

Как сообщает Deutsche Welle, об этом говорится в ответе Федерального агентства труда на запрос депутата Бундестага Сабины Цимерманн, опубликованном изданием Passauer Neue Presse.

*«Для все большего и большего количества работающих доходов от одной работы становится недостаточно. Подавляющее большинство людей должны иметь более чем одну работу из-за финансовых потребностей, а не добровольно»*, – заявила Цимерманн.

Тенденция к увеличению количества мест работы для одного человека усиливается. В 2004 году было зарегистрировано только 1,86 миллиона человек, имевших по крайней мере два рабочих места. Сейчас 2,73 миллиона работающих имеют два места работы.

Напомним: ранее Федеральное агентство труда заявило о необходимости изменить закон о миграции из-за нехватки квалифицированной рабочей силы в ФРГ. Немецкий рынок труда ежегодно требует около 300 тысяч новых квалифицированных работников.

## Блок Меркель – в лидерах

*Рейтинг старейшей немецкой партии – Социал-демократической партии (СДПГ) – продолжает снижаться, сейчас он составляет 17%.*

*Таковы результаты опроса Института исследования общественного мнения Emnid для Bild am Sonntag, сообщает FAZ.*

Партнеры СДПГ по большой коалиции, блок канцлера Ангелы Меркель ХДС–ХСС, зато набрал 2 процентных пункта, и сейчас его рейтинг составляет 34%. Таким образом, консерваторы опережают социал-демократов ровно наполовину.

Третьей самой сильной политической силой остается ультраправая «Альтернатива для Германии» с 14%.

Зеленые имеют поддержку 12%, Левые потеряли один пункт и имеют 10%. Свободная демократическая партия набирает лишь 8%.

Напомним, 22 апреля лидером Социал-демократической партии Германии (СДПГ) стала Андреа Налес – женщина стала во главе этой политической силы впервые в ее 155-летней истории.

## Германцы открыли памятник Карлу Марксу

*В немецком городе Трир, где родился Карл Маркс, открыли памятник философу.*

*Как пишет издание Die Zeit, открытие было приурочено к 200-летию со дня рождения Маркса.*

Памятник городу подарил Китай. Скульптура выполнена из бронзы. Вместе с постаментом она достигает высоты 5,5 метра.

В открытии приняли участие около 200 гостей, в том числе китайская делегация.

Посол Китая в Берлине Ши Минге назвал статую *«свидетельством нашего дружественного обмена»*, которым Китай *«хотел передать большому Карлу Марксу уважение и память Китая и китайского народа»*.

Во время открытия в Трире прошли сразу несколько демонстраций против появления монумента в городе. По данным полиции, около 70 человек собрались на марш ультраправой партии «Альтернатива для Германии» под лозунгом «Долой Маркса с пьедестала».

В контрдемонстрации приняли участие 150 человек, еще около 300 человек присоединились к митингу сторонников памятника.

Напомним, президент Еврокомиссии Жан-Клод Юнкер во время выступления на мероприятии, посвященном рождению Маркса, вступился за философа, заявив, что его не следует оценивать за преступления, совершенные его последователями спустя десятилетия после его смерти.

Немецкая группа, представляющая интересы жертв коммунизма, раскритиковала празднование годовщины Маркса.

## «Северный поток» для Евросоюза

*В немецком Лубмине началось строительство газовой приемной станции в рамках проекта газопровода «Северный поток – 2».*

*Об этом заявил представитель Nord Stream, дочерней компании российского газового монополиста «Газпром», передает Welt.*

По его словам, рабочие начали закладывать фундамент для станции приема газа и технического здания для дальнейших работ. Строительство проведут на площади около шести гектаров.

С конца 2019 года газотранспортный коридор должен транспортировать около 55 млрд кубометров российского природного газа ежегодно из России через Балтийское море в Германию.

Противники проекта, в том числе Польша, страны Балтии, Украина, Молдова, США и Дания, утверждают, что «Северный поток-2» увеличит зависимость ЕС от «Газпрома», который уже поставляет около трети объемов газа в ЕС.

Кроме Германии Финляндия одобрила строительство газопровода, длина которого составит 1200 километров. Канцлер Германии Ангела Меркель заявила, что проект «Северный поток-2» не может быть реализован без сохранения Украины как страны-транзитера.

ТАМ, В АРМЕНИИ

# «Никаких внешних политических курсов команда Пашиняна менять не будет»

*Лидер протестного движения в Армении, депутат оппозиционного блока «Елк» Никол Пашинян стал премьером. И первый вопрос, который встал на повестке дня: кто будет работь в команде Пашиняна? Какой будет внешняя политика его правительства: пророссийской или прозападной?*



Как известно, Пашиняна избрали премьер-министром со второй попытки во время голосования в парламенте 8 мая. За его кандидатуру проголосовали 59 депутатов при необходимом минимуме в 53 голоса. Против – 42. Других претендентов на пост премьера не было. В ближайшее время Пашиняну предстоит сформировать свое правительство.

После избрания на пост премьер-министра политик заявил: *«Мы уверены, что в системе государственного управления страны множество талантливых людей. Мы не только не готовимся к кадровому погрому, а намерены сконцентрировать лучший потенциал во благо Армении. Мы надеемся на тех людей в госсистеме, которые достигли успеха благодаря своему таланту»*.

Соратники Пашиняна в своих многочисленных комментариях также подчеркивали, что никто не будет заставлять всех сотрудников старого правительства уходить в отставку, поменяют лишь часть людей на нескольких постах. *«Мы изменим правила игры, и это создаст позитив»*, – таков лейтмотив команды нового премьер-министра Армении.

*– Пашинян до избрания премьером неоднократно заявлял, что никаких политических курсов менять не будет*, – говорит журналист, корреспондент агентства Bloomberg **Сара Ходжоян**. – *Он подчеркивал, что Россия – стратегический партнер Армении, и необходимо сохранять те отношения, которые сейчас выстроены. В то же время Пашинян говорил и о том, что отношения с США и Европой должны углубиться. Я думаю, что в первые месяцы, в первый год его правления так все и будет, что никаких внешних политических курсов его команда менять не будет.*

*А потом будут выборы. Ведь Пашинян одной из главных своих целей называл проведение новых парламентских выборов по новым законам. И сейчас, как я понимаю, начнется работа над новым Избирательным кодексом и законом о партиях. В Армении Избирательный кодекс меняли всего год назад, и в апреле 2017 года у нас впервые состоялись выборы по пропорциональной системе. Тогда как раз победила партия Сержа Саргсяна, оппозиция обвиняла власть в фальсификациях.*

*Мне кажется, предстоящий год будет непростым для Армении. Будет очень трудно в парламенте в том смысле, что сложно сделать так, чтобы выполнить пожелания всех. Пашинян настроен на то, чтобы изменить прежде всего рейтинговую систему, прямое голосование за кандидатов-мажоритарщиков, чтобы олигархи не имели места в парламенте, потому что это способствует коррупции.*

*Когда будут новые парламентские выборы, пока не известно. Но известно, что Пашинян и его фракция будут в них участвовать и стремиться получить большинство. Потому что сейчас они остаются в меньшинстве в парламенте.*

Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.

ДЫПКУР'ЕР

## Артур Міхальскі стане паслом Польшчы ў Беларусі?

Камітэт па замежных справах польскага сейма 9 мая ўхваліў кандыдатуру Артура Міхальскага на пасаду пасла Польшчы ў Беларусі. Цяпер кандыдатуру Міхальскага павінен зацвердзіць прэзідэнт Польшчы, пасля чаго дыпламат пачне выконваць абавязкі пасла ў нашай краіне.

Раней Артур Міхальскі працаваў паслом у Малдове, а ў апошнія гады быў дырэктарам Усходняга дэпартамента Міністэрства замежных спраў Польшчы.

Ранейшы пасол Польшчы ў Беларусі **Конрад Паўлік** завяршыў сваю дыпламатычную місію 31 студзеня гэтага года. Паводле інфармацыі кіраўніка прэс-службы МЗС Польшчы **Артура Ломпарта**, такое рашэнне было прынята на просьбу самога Паўліка былым міністрам замежных спраў Вітольдам Вашчыкоўскім (9 студзеня Вашчыкоўскага і шэраг іншых міністраў адправіў у адстаўку новы прэм'ер-міністр Польшчы Матэвуш Маравецкі).



ПУЛЬС

### В России увеличат пенсионный возраст

Премьер-министр России Дмитрий Медведев выступил 8 мая в Госдуме, заявив, что в самой короткой перспективе представит законопроект об изменении пенсионного возраста. Слова «повышение» он при этом избегал, однако указал, что прежние возрастные рамки – 55 лет для женщин и 60 – для мужчин – устарели. По его словам, они были приняты, по сути, в 1930-е годы, когда продолжительность жизни составляла 40 лет.

### Украинские инвесторы выиграли суд

Третейский суд в Гааге обязал Россию выплатить 159 млн долларов США 18 украинским компаниям и одному физическому лицу за потерянные активы в Крыму.

Как говорится в постановлении суда, Россия ответственна за нарушение прав украинских инвесторов с 21 марта 2014 года, когда президент РФ Владимир Путин подписал указ об аннексии Крыма.

### Трамп отреагировал…

Президент США Дональд Трамп отреагировал на предложения американских конгрессменов, сенатора-республиканца Линдси Грэм и президента Южной Кореи Мун Чжэ Ина вручить ему Нобелевскую премию мира за улучшение отношений с КНДР и усилия по установлению мира и денуклеаризации Корейского полуострова.

*«Все думают, что я заслуживаю Нобелевской премии мира, но я бы так никогда не сказал»*, – заметил Трамп на заседании кабинета в Белом доме. *«На самом деле единственная награда, которую я хочу, – это победа для всего мира»*, – добавил он, подчеркнув, что в настоящий момент сосредоточен на том, чтобы соглашение с Северной Кореей было заключено и денуклеаризация Корейского полуострова завершилась.

### Суд запретил учительнице приходить в школу в хиджабе

Учительница младших классов попыталась оспорить закон, не позволяющий госслужащим в Берлине приходить на работу в одежде с религиозной символикой.

Суд по трудовым вопросам пришел к выводу, что закон, обязывающий учителей, полицейских и работников суда избегать подобной демонстрации своей религиозности, соответствует Конституции страны.

Все 16 земель Германии самостоятельно решают, можно ли разрешать учительницам приходить в школу в хиджабе. Три года назад немецкий конституционный суд отменил полный запрет на их ношение, сославшись на свободу вероисповедания. Учительница в Берлине проработала в начальной школе всего один день, после чего ее перевели в колледж, где ей позволено носить хиджаб.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Уладзімір ЯГОЎДЗІК

# Статут Вялікага Княства



Два з паловаю стагоддзі, з 1589 і па 1840 год, на тэрыторыі Беларусі дзейнічаў Статут Вялікага Княства Літоўскага. Гэты Звод законаў, напісаны тагачаснаю беларускаю моваю, быў надрукаваны летам 1588 года ў Віленскай друкарні братоў Мамонічаў. Потым з'явіліся пераклады Статута на лацінскую, польскую і рускую мовы. І з таго часу аж да сённяшніх дзён многія адукаваныя людзі захапляюцца яго мудрымі старонкамі.

Асаблівa значны ўклад у распрацоўку Статута 1588 года зрабіў слаўны сын зямлі беларускай князь Леў Сапега. Менавіта на яго ўласныя сродкі і было ажыццёўлена першае выданне гэтага выдатнага пісьмовага помніка.

Леў Сапега нарадзіўся ў маёнтку Астроўна на Віцебшчыне. Сямігадовым хлапчуком бацькі прывезлі яго ў Нясвіж і аддалі ў школу, заснаваную пры двары вядомага магната-асветніка Мікалая Радзівіла Чорнага. У радзівілаўскім замку-палацы знаходзілася надзвычай багатая бібліятэка, дзейнічала друкарня. Якраз тут у 1562 годзе славуты філосаф Сымон Будны разам з аднадумцамі выдаў на беларускай мове «Катэхізіс», што выкарыстоўваўся як падручнік у пачатковых класах. Хутчэй за ўсё, па гэтай кнізе і навучыўся чытаць будучы канцлер Вялікага Княства.

Вышэйшую адукацыю Леў Сапега атрымаў у Германіі, у знакамітым Лейпцыгскім універсітэце, дзе найперш ён спасцігаў складаныя юрыдычныя навукі. Затым малады князь вярнуўся на радзіму. Каб паспахова бараніцца ад варожых набегаў, Вялікае Княства Літоўскае, куды ўваходзіла Беларусь, і Польскае каралеўства ў 1569 годзе аб'ядналіся ў адну дзяржаву – Рэч Паспалітую. Разам з тым абедзве краіны па-ранейшаму заставаліся самастойнымі, кожная мела свой урад і асобнае войска.

Доўгія гады Леў Сапега займаў высокія пасады ў Вялікім княстве Літоўскім, яму даручаліся адказныя перамовы з замежнымі пасламі і ўладарамі. Сам жа князь непахісна верыў у тое, што краіна тады будзе па-сапраўднаму заможнай і магутнай, калі яе грамадзяне пачнуць жыць па разумных законах. На той час ужо існавалі Статуты 1529 і 1566 гадоў. Леў Сапега не проста іх адрэдагаваў, а дапоўніў артыкуламі, падказанымі самім жыццём. Акрамя таго, напісаў выдатную прадмову, патлумачыў суродзічам:

«Мы такі маем скарб у руках, які за аніякія грошы не купіш. Кожны прыстойны чалавек павінен яго ведаць, каб сам сябе стрымліваў, нікога не крыўдзіў, дзейнічаў згодна пісанага права. А калі хтосьці яго пакрыўдзіць, дык ведаў, дзе шукаць абарону і лекі ад крыўды…»

Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года складаецца з 14 раздзелаў, куды ўвайшлі 488 артыкулаў. Паводле іх нашы продкі вырашалі розныя спрэчкі, тварылі суд над злачынцамі. Дакумент забараняў чужынцам займаць важныя пасады, набываць ва ўласнасць на Беларусі маёнткі. Былі і такія артыкулы, што баранілі малых дзяцей-сірот, бацькі якіх заўчасна памерлі ці загінулі. Меліся нават асобныя артыкулы пра ахову лясоў, лугоў, дзікай жывёлы.

Ёсць у Статуце 1588 года і асобны запіс пра беларускую мову, якая тады называлася рускай ці простай. Гэтыя радкі добра сведчаць, як шанавалі нашы прашчуры роднае слова:

«А пісар земскі павінен па-руску літарамі і словамі рускімі ўсе лісты, выпіскі і позвы пісаць, а не іншай мовай і словамі».

Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года – цудоўны помнік чалавечай думцы, спрадвечнаму людскому імкненню зрабіць свет, у якім нам выпала жыць, больш дасканалым і справядлівым.



УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак У №№31–37.)*

## Першыя праявы новай улады

У набытай за савецкім часам практыкі кіравання мясцовымі справамі не мелася ніякіх шанцаў на аднаўленне. Дзеля гэтага ў акупантаў з'явіліся – і досыць хутка – свае падыходы. Мне не вядома, па чыёй ініцыятыве да кіраўніцтва Магільнянскай валаснай управай прыйшоў з суседняй вёскі Галавачы Александроў.

Прозвішча для нашай мясцовасці зусім не тыповае. Магчыма, некалі служыў тут пагранічнікам і па заканчэнні службы не падаўся на сваю малую радзіму. Асаблівай жорсткасцю не вызначаўся. Не карыстаўся асабістай аховай. Лёгка ўступаў у кантакты з людзьмі. Дзеля паездак па тэрыторыі воласці карыстаўся толькі веласіпедам.

Пры ўсім гэтым на Александрова глядзелі як на прадстаўніка нямецкай акупацыйнай улады, і, відаць, гэтага было дастаткова пэўным асобам, каб на яго жыццё зрабіць замах у канцы лета ці на пачатку восені 1941 года. Пры да канца не высветленых абставінах такое ім удалося. Хадзілі чуткі, што яго прыстрэлілі чырвонаармейцы, якія не-не ды з'яўляліся ў нашай мясцовасці аж да канца 1941 года і нават пазней.

Відаць, зразумелі, што марна чакаць хуткага вызвалення Чырвонай Арміяй, таму ўсяляк імкнуліся прабрацца на ўсход да злучэння з ёй. Забойства Александрова было першым і апошнім у дачыненні да чыноўнікаў створанай акупантамі ў Магільным цывільнай мясцовай адміністрацыі. Дый функцыянавала яна ў нас вельмі кароткі тэрмін, пра што пастараюся сказаць пазней.

## У нашую хату завітаў паліцэйскі

Стаяў цёплы жнівеньскі дзень лета 1941 года. Уся сям'я была ў зборы. Абедалі. Нечакана ў хату зайшлі паліцэйскі з суседкай Арынай Белай. Пераступіўшы парог, яна адразу ж закрычала, як ашалелая, паказваючы пальцам на тату:

– Во праз каго майго мужа ў турму пасадзілі! Ён жа зладзейскім чынам завалодаў і верхнім каменем ад нашых жорнаў. Прашу вас, расстраляйце яго!

З такім жа заклінаннем-просьбай звярнулася да паліцэйскага і дачка суседкі Арыны Ларыса (прыкладна 17 гадоў ад роду), якая стаяла ля расчыненага ў хату акна. Заўважу, што ў той час вельмі модным было прыпісваць людзям такое абвінавачанне, каб схіліць прадстаўнікоў нямецкай улады да вызначэння ім суровай меры пакарання. Абвінавачваць майго тату не мелася ў суседкі ніякіх падстаў, бо ён ніколі не быў лаяльна настроены да савецкага палітычнага рэжыму, асабліва пасля ўчыненых ім у 1937–1938 гадах масавых фізічных распраў над нявіннымі людзьмі. Я яшчэ ніколі не бачыў тату такім бледным, у няспынных дрыжыках. Тут, відаць, прычынай быў і востры парок сэрца. Мае малодшыя браты Генадзь і Анатоль (1935-га і 1938 г.н.) не разумелі, што адбываецца, і працягвалі абедаць. Сёстры Ліда і Ада наўзрыд плакалі, хапалі за рукі паліцэйскага, просячы не чапаць тату. У мамы і ў мяне не дайшло да слёз, але страху было многа. Спачатку мне здавалася, што я памыляюся, аднак з кожнай хвілінай усё больш і больш пераконваўся, што паліцэйскі неяк спагадліва ставіцца да маёй мамы, не зводзячы з яе сваіх зусім не суровых вачэй. Цётцы Арыне і яе дачцэ Ларысе ён загадаў ісці дамоў, паабяцаўшы, што з іх скаргай разбярэцца і сёння ж паведаміць пра сваё рашэнне.

Калі суседзі выйшлі з хаты, паліцэйскі з выразнай усмешкай на твары звярнуўся да маёй мамы:

– А я вас ведаю. Вы ж з Літвы *(за тры кіламетры ад Магільнага. – **Л.Л.**)*, дачка Сымона і Марылі. Адзін ваш брат, трактарыст Ванька, перад вайной быў узяты ў войска, другі, Валодзя, паступіў вучыцца ў Кіеўскае ваеннае медыцынскае вучылішча, сястра Наташа гадуе трох дзяцей.

Ад такіх слоў ва ўсіх нас павесялела, пацяплела на душы. Нават твар таты ўжо не здаваўся такім хваравіта бледным. А ведаў паліцэйскі маму і ўсю яе радню таму, што жыў у суседняй да Літвы вёсцы Стальбоўшчына. Выходзячы з хаты, сказаў:

– Я мог бы пакінуць вам камень ад жорнаў, але ваша суседка Арына такая назойлівая, што яна пасля гэтага не спыніцца аббіваць парогі Вуздзенскага паліцэйскага ўчастка, які яна ўжо наведала тры разы.

У гэты ж дзень камень ад жорнаў перайшоў ва ўласнасць Арыны. Але і мы доўга не заставаліся без яго: дапамаглі добрыя людзі. У цяжкія дні акупацыі такая спагадлівасць была вельмі характэрнай для магілян.

У заключэнне колькі слоў пра тое, як нам дастаўся той злашчасны Арынін камень. Дзесьці ў 1937-м ці 1938 годзе мясцовая савецкая ўлада вынесла пастанову аб масавым знішчэнні жорнаў у мястэчку Магільнае. Лічылася, што для гэтага дастаткова будзе разбіць толькі іх верхнія камяні. На такі ж злачынны крок улада пайшла дзеля таго, каб вымусіць людзей карыстацца дзяржаўным млыном, плацячы за гэта пэўную суму грошай ці разлічваючыся натурай. Мала хто асмеліўся не выканаць той драконаўскай пастановы. Сярод іх быў і муж Арыны Піліп. Дарэчы, ён належаў да радні вялікага родавага клана народнага пісьменніка БССР Якуба Коласа. Уся наша Кавалёўская вуліца была завалена верхнімі камянямі ад жорнаў. Спецыяльна выдзеленыя людзі па-заліхвацку разбівалі іх молатам на часткі. На вуліцы мястэчка выйшлі амаль усе жыхары паглядзець на гэтае незвычайнае відовішча. А вось Піліп прыхаваў свой камень і праз два-тры дні ўпоцемкі, каб ніхто не бачыў, прыкаціў яго да нас.

– Бяры, Міхась, у цябе пяцёра дзяцей, а я з дачкою неяк абыдуся без жорнаў. Толькі нічога не кажы пра камень маёй жонцы.

Тата прапаноўваў грошы, але сусед адмовіўся, а вось да чаркі ахвотна прыгубіўся. Прычым не адзін вечар. Піліп па рацэ Нёман ганяў згоны ў Польшчу, любіў расказваць, як там няблага жывуць людзі. Можа, гэта і паслужыла для рэпрэсіўных органаў падставай, каб арыштаваць яго. Куды дзеўся наш сусед, ніхто не ведаў ні з яго родных, ні з блізкіх. А пра камень Арына ўсё ж даведалася, толькі ў мірны час ён быў ёй не патрэбны.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

РАЗБОР ПОЛЕТОВ

# Как фанера над Парижем…

*Уже всем известно, что украинский певец Alekseev, который представлял Беларусь в этом году на «Евровидении», не смог выйти в финал конкурса.*

Есть разные отзывы о том, как выступил артист. Одни категорично утверждают: «Позор!» Другие отмечают: «Позитивные моменты были…»

*«Вначале, когда исполнитель Alekseev распускал розовые слюни с розой в руках, пришлось прятать глаза от экрана, словно все это чарующее действо поставил ты сам. Но когда грянул финал, я захохотал в голос*, – отреагировал в «Фейсбуке» драматург **Николай Халезин**. – *У него на спине проросла клумба. Клумба с розами! Британские комментаторы поначалу замялись, а потом уже выдали все версии: начиная от розария на спине и заканчивая редкой формой псориаза.*

*Кто это все делает? Они хотя бы чуть-чуть представляют тренды в современных сценических решениях? Что за дикая тюзовская бутафория? Да, «Евровидение» такой вот попсовый конкурс как бы песен, но и он существует в современных условиях…»*

*«В номере были красивые моменты, были и спорные, но это уже – на вкус, на цвет...* – высказалась **Анастасия Тиханович.** – *Спел плохо. Это факт. Был напуган. Тоже все заметили…»*



То, что Никита Алексеев представлял Беларусь на «Евровидении», похоже, для него самого было просто формальностью. Большой резонанс вызвал в интернете ролик о том, как Алексеев накануне открытия конкурса давал интервью журналистке. Она вела разговор на английском языке и в конце спросила у него: «Как будет «Желаю удачи» по-белорусски?» Не моргнув глазом, Alekseev ответил: «Прывітанне!»

За свой конфуз артист потом даже не извинился, при том что этот ролик разлетелся мгновенно!

И вот – пролетел, как фанера над Парижем!

Кстати, в минувшем году белорусы на «Евровидении» тоже не взяли призовых мест. Но NaviBand встречали как героев. Потому что свои, а не чужие. Потому что песня была на белорусском языке. Потому что спели хорошо. За них не было стыдно.

За 15 лет участия Беларуси в Международном конкурсе песни «Евровидение» представители страны выходили в финал шоу лишь пять раз. Самое высокое место на сегодня – шестое в 2007 году у Дмитрия Колдуна.

Финал «Евровидения-2018» состоится 12 мая.

ВЗГЛЯД СО СТОРОНЫ

## Эдуард ХАНОК: «Сразу было ясно, что не потянет»

*Известный в прошлом композитор, народный артист Эдуард Ханок говорит, что артист, выступавший в этом сезоне «Евровидения» от Беларуси, имел мало шансов войти в финал.*

– Он нулевой изначально, – *жестко, но честно говорит Ханок*. – Сразу было ясно, что он не потянет. На «Евровидении» с таким вялым темпераментом делать нечего.

ПОДСЧИТАЕМ...

## Сколько стоит «Евровидение»?

*Какую цену Беларусь платит за участие в конкурсе?*

*Вот как ответили «Народной Воле» на этот вопрос в Белтелерадиокомпании.*

«Ежегодно мы платим взнос за участие в «Евровидении», а также за билеты, проживание и питание для всей белорусской делегации во время конкурса, оплачиваем комментаторскую кабинку. Есть также ряд других расходов, связанных исключительно с телетрансляцией конкурса. То есть Белтелерадиокомпания несет исключительно организационные расходы.

В соответствии с положением о национальном отборе подготовку артиста, его промотуры, промопродукцию оплачивает сам артист либо его продюсер.

Белтелерадиокомпания по своему усмотрению может взять на себя продюсерские функции, как это было, например, в случае с Тео (Юрием Ващуком). Ему мы сами все оплачивали. И он, кстати, прошел в финал. Отзывы о его выступлении были хорошими».

Что касается размера ежегодного взноса за участие в конкурсе, то его в Национальной государственной телерадиокомпании не называют – мол, это коммерческая тайна (в соцсетях называли сумму около 200 тысяч евро).

Никакой тайны здесь нет – считай, попусту потрачены огромные государственные средства (точнее – народные). Кто-то что-то от этого «спектакля» поимел, но не те же налогоплательщики. Может, хватит за счет денег трудового люда участвовать в сомнительных праздниках?!

**Подборку подготовила Марина КОКТЫШ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Бардак у зборнай

*На чэмпіянаце свету па хакеі беларуская каманда пакуль адзначылася толькі скандаламі.*

Калі браць нацыянальную каманду – як вяршыню айсберга, як паказчык развіцця ўсяго беларускага хакея, – то проста валасы ўстаюць дубка ад такога "развіцця"! Бардак у калектыве, скандалы, інтрыгі, гучныя адстаўкі падчас сусветнага першынства – вось няпоўны набор таго, з чым беларуская каманда і трэнерскі штаб прыехалі ў Капенгаген.



І штарміць пачало яшчэ да гэтага. Перад ад'ездам каманды на чэмпіянат стала вядома: галоўны трэнер зборнай Беларусі **Дэйв Льюіс** у чарговы раз "адчапіў" нападаючага **Андрэя Сцяпанава,** што, трэба дадаць дзеля справядлівасці, і на самай справе выклікала шмат пытанняў. Хакеіст не з горшых і абедню дакладна не сапсаваў бы. Пакрыўджаны Сцяпанаў маўчаць не стаў, а вырашыў лінуць алею ў полымя: *"Гатовы прыязджаць у зборную, але не да Льюіса. Гэта перабор, апошняя кропля… З мяне робяць недахакеіста. Льюіс выбраў трох-чатырох любімчыкаў, з якімі можна пагаварыць і пажартаваць, а астатнія быццам рабы"*.

Ужо гэта паказвала, што атмасфера ў камандзе далёкая ад ідэальнай, але хакейныя чыноўнікі, відаць, смецце з хаты вырашылі не выносіць. Усе маўчалі, верагодна, думалі так: будзе вынік – праблема вырашыцца сама сабой. Не вырашылася. Пасля двух паражэнняў – ад шведаў (0:5) і французаў (2:6) – яшчэ трывалі, а пасля разгрому 0:6 ад расіян ком пакаціўся. Паводле некаторай інфармацыі, з Капенгагена ў Мінск тэрмінова вылецеў "на кансультацыі" старшыня Федэрацыі хакея **Сямён Шапіра**, а ў ноч з 7 на 8 мая вылецеў – спачатку са зборнай, а затым з Даніі – Дэйв Льюіс.

Прэс-служба федэрацыі паведаміла, што гэта было яе і Льюіса *"сумеснае рашэнне"*, прынятае пасля *"няўдалага старту на чэмпіянаце свету, а таксама з улікам сітуацыі, у якой апынулася зборная"*. Канадскі спецыяліст, маўляў, палічыў, што *"змены ў трэнерскім штабе могуць надаць камандзе неабходны імпульс для паляпшэння гульні, таму пакідае стан зборнай"*.

Дарэчы, падрабязнасці развітання з канадцам да гэтага часу не агучваюць ні трэнеры, ні хакеісты, але адразу пасля гэтага адправіўся дадому і **Андрэй Мезін**, які таксама ўваходзіў у трэнерскі штаб. Праўда, і ён маўчыць як рыба і не распавядае ні пра свой ад'езд, ні пра тое, што ўвогуле творыцца ў камандзе. Затое пра атмасферу ў зборнай Беларусі распавёў расійскі журналіст **Аляксей Шаўчэнка**: *"Я заўсёды лічыў, што нашы суседзі пасля маскоўскага чэмпіянату на мяжы вылету з эліты, а зараз пераканаўся ў гэтым. Галоўны трэнер падаў у адстаўку адразу пасля паражэння, у штабе ўсе адзін з адным грызуцца"*.

Пасля адстаўкі Льюіса выконваць абавязкі галоўнага трэнера стаў расійскі спецыяліст **Сяргей Пушкоў**, які ўзначальвае гродзенскі "Нёман". Дапамагаюць яму **Міхаіл Захараў**, **Вячаслаў Гусаў** і **Андрэй Кудзін**. А зборная пасля гэтага зноў прайграла – швейцарцам (2:5). Сёння камандзе з "краіны лядовых палацаў" трэба думаць толькі аб адным – як наогул не вылецець з элітнага дывізіёна, што цалкам верагодна.

**Алесь СІВЫ.**

**P.S.** *Зборнай Беларусі засталося правесці на турніры ў сваёй групе тры матчы. 11 мая беларусы згуляюць з камандай Чэхіі, 12 мая – з аўстрыйцамі і 15 мая – са славакамі.*

## «Дрэнна казаць не хочацца, добра – няма чаго…»

*Былыя ігракі зборнай Беларусі па хакеі выказалі меркаванне пра сённяшнюю сітуацыю ў зборнай.*

### Сяргей ШЫТКОЎСКІ:



– Адстаўка галоўнага трэнера Дэйва Льюіса, магчыма, пойдзе на карысць камандзе, бо на пачатку матча са швейцарцамі адчувалася, што хлопцы заварушыліся і гулялі на роўных. Але ў 3-м перыядзе такія памылкі дапускалі, што гэта проста дзіцячы садок! Абаронцы зусім не страхавалі варатара, чым яны займаліся? Датчане фінаў перамаглі, дык яны ж там за кожны метр біліся!

Чаму беларуская зборная не прагрэсіруе? Таму што раней ігракі нацыянальнай каманды гулялі ў моцных клубах, было шмат вопытных хакеістаў. А зараз вырашылі базавым клубам зборнай зрабіць мінскае "Дынама", але, як мне падаецца, гэта не выйсце. Таму і няма ў нас новых "зорак", а зборная боўтаецца паміж небам і зямлёй.

### Алег АНТОНЕНКА:



– Дрэнна казаць пра гульню зборнай не хочацца, а добрага пакуль няма што і сказаць. Калі шмат прапускаем, а самі не можам забіць, значыцца, нешта не так. Можа быць, унутры каманды адбываюцца нейкія невядомыя нам працэсы. І змена трэнера падчас чэмпіянату – гэта заўсёды стрэс для каманды. І для хакеістаў, і для новага трэнера, які прызначаны кіраваць камандай.

БЕЗ ПАЛІТЫКІ

## Анатоль Лябедзька: «Хакей не шчоўкае абцасамі па камандзе»

*Правацэнтрысцкая кааліцыя прапанавала сваю кандыдатуру на пасаду галоўнага трэнера зборнай Беларусі па хакеі.*

Пра гэта паведаміў кіраўнік АГП **Анатоль Лябедзька** пасля звальнення з пасады настаўніка беларускай зборнай **Дэйва Льюіса**.

– Гэта, безумоўна, жарт, але, калі наш кандыдат навучыць хакеістаў спяваць "Пагоню" і трымаць руку на сэрцы, то гэта будзе не горшы вынік, чым тых буйных спецыялістаў, якія доўгія гады развіваюць беларускі хакей, – кажа палітык. – А калі сур'ёзна, то хакей, як і эканоміка, не шчоўкае абцасамі па камандзе. Колькі б ты ні прымаў дэкрэтаў і ўказаў, колькі б ні праводзіў нарад, гэтага яўна недастаткова для прагрэсу. Тут адміністрацыйныя метады не працуюць, хаця ўлады імкнуцца развіваць хакей у краіне менавіта па такой сістэме.

Мне слаба верыцца, што дзе-небудзь у Германіі альбо Даніі кіраўнікі краіны збіраюць нарады па развіцці хакея, але тым не менш немцы ў гэтым годзе гулялі ў фінале Алімпіяды, а датчане днямі абыгралі моцную каманду Фінляндыі. Таму што там ёсць дзяржава са сваёй гісторыяй, ёсць нармальная эканоміка і патрыятызм. Але беларускія ўлады гэтага не хочуць разумець. У нас лічаць, што нарады і пастаўленыя задачы прынясуць нам медалі.

**– Ці варта ў такім выпадку вінаваціць трэнераў і спартсменаў у няўдалым выступленні?**

– А што іх вінаваціць, калі яны не могуць скочыць вышэй галавы? Які ўзровень, так і гуляюць. Можна адзін раз выпадкова трапіць шайбай шведскаму варатару ў галаву і выйграць, але ж кожны раз цуды не здараюцца. Калі ж казаць пра сістэму развіцця хакея, то, паўтаруся, мы ідзём не тым шляхам, як іншы цывілізаваны хакейны свет.

**– Сёння хакеістаў шмат крытыкуюць за тое, што яны, маючы высокія заробкі, не даюць вынік. Маўляў, ці апраўдвае мэта сродкі?**

– Гэта размовы для бедных. Натуральна, калі многія беларусы атрымліваюць заробкі па 300–400 рублёў, а хакеісты – тысячы долараў у месяц, то гэта раздражняе людзей, і ніколі яны не будуць падтрымліваць тых самых хакеістаў. Яны будуць глядзець на хакей менавіта праз свой гаманец і халадзільнік.

З іншага боку, у многіх іншых краінах хакеісты зарабляюць значна больш, чым беларускія калегі, але гэта не робіць іх менш патрыятычнымі. Мне падаецца, што ўся справа ў краіне, у якой жывуць хакеісты, і ў той сістэме, у якой яны выхоўваюцца.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

